PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (2105) Год XLI Беласток 15 верасня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# Пачатак школьнага года



*Гарадоцкія першакласнікі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У Кляшчэлях

## Адкрыццё школы

**Алег Латышонак**

2 верасня 1996 г. у новай Пачатковай школе ў Кляшчэлях адбылося ваяводскае ўрачыстае адкрыццё навучальнага года 1996/1997.

Доўга чакалі кляшчэлеўскія школьнікі і настаўнікі гэтай школы. Дагэтуль навучанне вялося ў вельмі прымітыўных абставінах, у старых драўляных будынках без ніякага абсталявання.

Даволі доўгая і складаная таксама гісторыя пабудовы новай школы. У 1987 г. пачалася пабудова гміннага асяродка культуры. Будавалі яго грамадскім чынам. Якраз настаў час бурлівых перамен у краіне. На кляшчэлеўскую гаспадарку гэтыя перамены паўплывалі вельмі адмоўна. Заняпалі ўсе большыя тутэйшыя прадпрыемствы. У 1991 г. тадышняя Гмінная рада вырашыла перадаць згаданы будынак на школу. Спачатку гміна будавала яе сама. У 1993 г. пабудову падтрымалі фінансава беластоцкая Кураторыя асветы і Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Міністэрства выдзяліла грошы з фонду, прызначанага на пабудову школ для нацыянальных меншасцей, зыходзячы з прынцыпу, што школа будзе служыць перш за ўсё беларускай моладзі.

І вось новая школа ўжо ёсць. Няма па-

*(працяг на стар. 5)*

У Гарадку

## Новы подых

**Ганна Кандрацюк**

Першы званок, шчаслівае развітанне з канікуламі, незвычайная элегантнасць — гэта тыповыя матывы, якія спадарожнічаюць пачатку школьнага года.

У Гарадку таксама першы дзень навучання святкавалі ўрачыста. На спартыўнай пляцоўцы, дзе адбывалася ўрачыстае адкрыццё новага года, сабралася да тысячы народу — вучні, настаўнікі, бацькі, запрошаныя госці. Прысутнасць мясцовых улад, духавенства, прэсы, дадавала шыку мерапрыемству, — быў войт Яўген Семянюк, мастак Лявон Тарасэвіч, сакратар гміны, задно і старшыня бацькоўскага камітэта (і мама першакласніцы) — Аліна Цітко, святары-катэхеты (айцец Мікалай Астапчук прывітаў сваіх выхаванцаў на беларускай мове).

Новы навучальны год найбольш цікавы новымі пераменамі. У Гарадку з гэтага года пачынае працаваць беларусістка **Тамара Бялькевіч**.

— Цяпер многа ад яе будзе залежаць, — гаворыць пра сумнае становішча, у якім апынулася беларуская мова, дырэктар **Вера Тарасэвіч**. Дагэтуль гэтаму прадмету навучалі многія настаўнікі і дзякуючы ім пратрывала групка з сарака навучэнцаў. Тут варта адзна-

*(працяг на стар. 5)*

У Крывой

## Старая школа на новым месцы

**Мікола Ваўранюк**

– Я другі раз удзельнічаю ў адкрыцці гэтае самае школы, — сказаў запрошаны на ўрачысты пачатак навучальнага года ў Крывой ветэран Савецкай Арміі **Анатоль Краўчук**. — Першы раз было гэта ў 1966 годзе. Вучыліся тады вашы бацькі.

Сёлета адкрывалася Пачатковая школа ў Пасынках з сядзібай у Крывой.

Вёска Крывая, у выніку аднадушнага галасавання жыхароў у рэферэндуме, 1 студзеня перайшла з Арлянскае гміны ў Бельскую. Войт **Юры Ігнацюк** стрымаў слова нанава запусціць там школу, зачыненую з часу, калі была пабудавана новая Пачатковая школа ў Орлі.

— Дзякую ўсім, хто дапамагаў у рамонце і перавозе школы з Пасынак, — гаварыў войт у час адкрыцця. — Дзякуючы вашай заангажаванасці рамонт абышоўся нам толькі ў трыста мільёнаў старых злотаў.

Найбольш хваляваўся, відаць, дырэктар **Яўген Хількевіч**:

— Вось прыходзіцца ў пенсіённым узросце!

Прычын для хвалявання было да-

*(працяг на стар. 5)*

# Шпрэевыя „патрыёты”

Вучняў гайнаўскага ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання, якія ў панядзелак 2 верасня ішлі ў сваю школу, віталі зробленыя шпрэем надпісы ля ўвахода: „I-klasisto wybierz Polskę”, „Podziemie walczy”, аздобленыя якарам PW і рэкламным знакам „Teraz Polska”.

Падобнае здарэцца ўжо трэці раз у гэтым годзе. Першы раз надпісы з'явіліся ў лютым у сувязі з візітам беларус-

*(працяг на стар. 5)*




Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

## Заява

**дырэктара ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы**

Сёння ў нашай школе, так як і ў іншых асветных установах, адбылася ўрачыстая інаўгурацыя новага школьнага года. На жаль, гэтая ўрачыстасць прайшла ў сумным настроі таму, што ўначы з нядзелі на панядзелак зноў паявіліся на мурах нашай школы надпісы нацыяналістычнага характару. Гавару зноў, таму што ўжо два разы нашы муры былі памазаны рознымі надпісамі. Моцна нас непакояць лозунгі, якія паявіліся на сценах, а ненавіта: „Першакласнік, выбяры Польшчу”, „Цяпер Польшча” ці „Падполле змагаецца” („Podziemie walczy”). Мы моцна пратэстуем супраць такога трактавання беларускай меншасці ў Польшчы. Гэта напэўна не дапамагае Польшчы, айчыне, нам усім увайсці ў структуры свабоднай Еўропы.

*2.09.1996 г.* **Яўген Сачко**

# Мы прачыталі

*Wielu posłom i senatorom brakuje wiedzy, umiejętności i charakteru, by wydajnie i skutecznie pracować w parlamencie. I długo jeszcze będzie się takich wybierać.*

Gazeta Wyborcza, nr 195

Мы, беларусы Беласточчыны, гарантуем выбар найлепшых сыноў нашай зямлі. І гэтым разам не падвядзем. „Нашы хлопцы” будуць у Варшаве!

* * *

*Mamy sensację: władza sięgnęła do swego żelaznego repertuaru. Zabawy w ojczulka — marnotrawnego synalka. Bokser ścigany listem gończym za rozróbę knajpianą i drobny rozbój — dostał list żelazny. Nic więc nie stoi na przeszkodzie, by zanucić na melodię znanej patriotycznej pieśni:*

*„Nie nosił lampasów, sportowy wdział strój,*
*List dostał cenniejszy od złota.*
*Prezydent się wzruszył i rzekł: To chłop swój —*
*Gołota, ta nasza Gołota...*
*Uszanują w sądzie, uszanują,*
*Prezydencką łaskę, pięści znój,*
*Bo jak trafnie orzekł pewien wujo:*
*On za naszą Polskę idzie w bój!”*

Polityka, nr 34

* * *

*Chińscy komuniści uważają zabijanie za lekarstwo na wszelkie kłopoty: na przestępczość, narkomanię, nadmierny przyrost naturalny, problemy narodowościowe i religijne. W czasie śledztwa prawie 100 proc. podejrzanych poddawana jest torturom, by wymusić zeznanie będące podstawą do wydania wyroku. W każdym komisariacie milicji są haki do wieszania za skute na plecach ręce lub okręcone liną stopy. Trwa wieloseryjna produkcja specjalnych pałek elektrycznych dostosowanych do uszu, ust, narządów płciowych. Na karę śmierci skazuje się także ludzi za prowadzenie „niewłaściwego trybu życia”. Oskarżony staje przed sądem ze związanymi na plecach rękami i tablicą na szyi zawierającą jego nazwisko i epitet w stylu „aktywny element kontrrewolucyjny”. Rozprawa ogranicza się do mowy prokuratora, która jest raczej obrzucaniem oskarżonego i jego obrońcy obelgami. Gdy przeprowadzono badania służące do określenia, czy oskarżony może być dawcą organów jest on już technicznie przygotowany do egzekucji.*

Gazeta Wyborcza, nr 195

* * *

*У чэрвені Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў у рамках праекта „Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі” правёў апытанне дарослага насельніцтва краіны. У ходзе апытання высветлілася, каго з дзяржаўных дзеячаў мінулага рэспандэнты лічаць ідэалам палітыка. Найбольш пунктаў набралі: Пётр Машэраў, Пётр Першы, Леанід Брэжнеў, Маргарэт Тэчэр, Уладзімір Ленін, Юрый Андропаў, Пётр Сталыпін, Іосіф Сталін. Усе названыя палітыкі, акрамя былога брытанскага прэм'ера Тэчэр, — расійскія ці савецкія. Гэта азначае, што беларусы да сёння жывуць у расійскім і савецкім кантэксце. Усе гэтыя палітыкі жорсткія, часам бязлітасныя, схільныя да аўтарытарнага стылю кіравання. Большасць з іх не вельмі абцяжарвалі сябе выкананнем законаў і улікам меркаванняў меншасці. Магчыма менавіта таму дэманстратыўнае ігнараванне законаў з боку цяперашняй выканаўчай улады ўспрымаецца многімі надзіва спакойна. Так на іх уяўленні павінен весці справы ідэальны палітык.*

Голас Радзімы, н-р 34

Выбар спадара Лукашэнкі не быў затым выпадковы. З гэтага відаць, што большасць беларусаў не патрабуе ні дэмакратыі, ні самакіравання, ні грамадзянскіх свабодаў.

* * *

*Grupa inicjatywna do walki z pornografią zyskała poparcie ruchów katolickich. Pod ideą walki z rozpasaniem moralnym podpisali się szef białostockiej „Solidarności” Józef Mozolewski, były senator Jan Szafraniec. Wszystkie działania koordynuje ogólnopolskie Radio Maryja, a „Bastion”, ukazujący się w Białymstoku biuletyn Młodzieży Wszechpolskiej, wzywa do składania donosów na pracowników kolportażu prasy.*

Wprost, nr 34

* * *

*Po ostatnich publikacjach w prasie i audycjach telewizyjnych pokazujących działania białostockich ochotników, zwalczających pisma pornograficzne, gwałtownie wzrosła sprzedaż tychże wydawnictw.*

Gazeta w Białymstoku, nr 198

„Reklama jest dźwignią handlu!”

* * *

*O moralność właściwą — powiedział prymas Glemp — należy walczyć żądając od kioskarzy, by chowali pod ladę pisma plugawe, a wykładali prasę katolicką. Kościół, który w ponurych czasach bronił wolności słowa, ma obecnie ochotę na kontrolę dystrybucji prasy przy pomocy katolickich aktywistów.*

Polityka, nr 34

„Ніва”, якая здаўна знаходзіцца ў ліку найлепш схаваных часопісаў, даўно была акрэслена актывістамі, працуючымі ў распаўсюджванні друку, як найбольш скандальнае выданне.

# З мінулага тыдня

**Менская прыватная радыёстанцыя 101,2 ФМ** 31 жніўня г.г. спыніла сваю дзейнасць. Міністэрства сувязі паведаміла, што перадатчык выключаецца таму, што парушае ён урадавую лінію сувязі. Незалежная беларускамоўная радыёстанцыя 101,2 ФМ, як адзіная ў рэспубліцы, рэтранслявала перадачы Бі-Бі-Сі, Нямецкай хвалі і Польскага радыё. „Прычына заключаецца ў палітыцы. Калі і дазволяць нам аднавіць дзейнасць, то адбудзецца гэта ў лістападзе, пасля рэферэндуму, якое арганізуе прэзідэнт Лукашэнка, — сказаў для штодзёнкі „Gazeta Wyborcza” дырэктар радыёстанцыі **Зміцер Новікаў**. — Для нас — гэта катастрофа, бо да гэтай пары страцім усіх рэкламадаўцаў”.

**Сеймавая Камісія замежных справаў** галасамі кааліцыйных дэпутатаў адобрыла кандыдатуру **Эвы Спыхальскай** — старшыні прафсаюзаў ОПЗЗ, на пасаду пасла Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь. Апазіцыйныя парламентары ставілі ёй у закід брак кваліфікацыі і дыпламатычнага вопыту. На іх думку, такая кандыдатура супярэчыць кадравай палітыцы, якая вядзецца з 1989 года.

**У 57 гадавіну выбуху ІІ сусветнай вайны** ўлады Беластока і ветэранскія арганізацыі ўсклалі кветкі да помнікаў нацыянальнай памяці. Галоўныя ўрачыстасці адбыліся ў квартале Пятрашы. На гарадскім могільніку прамаўляў між іншым айцец капітан **Аляксей Вайцюк** — праваслаўны капелан Войска Польскага.

**Павел Латушка** — новы віцэ-консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку, нанёс першы афіцыйны візіт беластоцкаму віцэ-ваяводу **Гжэгажу Рыкоўскаму**. У сустрэчы ўдзельнічаў генеральны консул РБ **Міхаіл Слямнёў**. Новы віцэ-консул заявіў, што хоча стаць прадстаўніком пражываючых у Польшчы беларусаў і ажывіць гаспадарчыя кантакты паміж Польшчай і Беларуссю, асабліва паміж прыгранічнымі вобласцямі.

**Новы школьны год** у Беластоцкім ваяводстве пачалі 91 тысяча вучняў пачатковых, 49,5 тысячы — сярэдніх і 900 — спецыяльных школ. У ваяводстве працуюць 47 школ з беларускай і 2 з украінскай мовай навучання.

**У Белавежы** адбыўся IX Кангрэс Федэрацыі зялёных. У чатырохдзённай канферэнцыі семдзесят эколагаў з усёй Польшчы абмяркоўвалі пытанні транспарту таксічных грузаў, нуклеарнай энергетыкі, экалагічнага земляробства, альтэрнатыўнай ваеннай службы, пашырэння Белавежскага нацыянальнага парку на ўвесь абшар пушчы. Удзельнікі кангрэса пагледзелі таксама прысвечаны Белавежскай пушчы фільм „Пульс першабытнай пушчы” і сустрэліся з яго аўтарамі.

**У Шымках** Міхалоўскай гміны сяляне не атрымоўваюць своечасова грошай ад беластоцкага малочнага завода „Mitex” за пастаўленае імі малако. За прададзеную ў ліпені сыравіну даваліся ім чакаць заплаты два месяцы. Дырэктар завода ў сваю чаргу наракае на кліентаў, якія па два месяцы не плацяць за дастаўлены ім прадукцыю, напрыклад, шпіталі ці іншыя бюджэтныя ўстановы. Дырэктар маркуе, што з верасня завод будзе разлічвацца з сялянамі тэрмінова.

**У баскетбольным турніры** на кубак старшыні Беластоцкага рэгіёна прафсаюза „Салідарнасць”, які нядаўна адбыўся ў Беластоку, прымалі ўдзел і апынуліся ў ліку пераможцаў беларускія спартсмены. Першыя тры месцы занялі наступныя баскетбольныя каманды: 1. АЗС Торунь, 2. „Гарызонт” Менск і 3. „Влукняж” Беласток.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Панарама Арлянскай гміны.**
- **Горад на Влтавай** — рэфлексіі беларуса на пражскім бруку.
- **Чаму павесіўся Міша Буй?** — прабавала даведацца Міра Лукша.

# Весткі з Беларусі

**Правакацыя вакол Шарэцкага**

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі атрымаў правакацыйнае пісьмо, з якім неадкладна пазнаёміў журналістаў на тэрмінова скліканай прэс-канферэнцыі. У ім было напісана: „Ваша Правасхадзіцельства! Я рады інфармаваць Вас, што пагадненні, якіх мы дасягнулі падчас Вашага двухтыднёвага візіту ў ЗША, паслядоўна выконваюцца. Фінансавыя актывы, аб якіх Вы казалі, адносна ажыццяўлення кампаніі ў беларускім парламенце ў верасні, выдзелены і будуць дастаўлены Вам праз нашага прадстаўніка ў тры этапы. Першую частку грошай у суме 2 млн. долараў ЗША Вы атрымаеце да 1 верасня 1996 г. Другая частка — такая ж колькасць, як Вы прасілі, будзе пераведзена ў якасці доўгатэрміновага крэдыту на рахунак Белаграінторгу персанальна для праектаў Вашага сына. Мы спадзяёмся, што да сярэдзіны снежня Вы здольны будзеце кансалідаваць дэпутатаў парламента і пераканаць лідэраў камуністычнай групы падтрымаць Ваш план. Мы рэкамендуем ажыццяўляць шырокую актыўнасць сярод насельніцтва і палітычных партый Беларусі ў адносінах да дакумента аб небяспеках рэферэндуму для знешняй палітыкі. Я спадзяюся, што Вы своечасова атрымалі гэты дакумент. Я жадаю Вам поспехаў у рэалізацыі Вашых планаў у імя Вашай дзяржавы. З вялікім задавальненнем запрашаю Вас з сям'ёй наведаць Фларыду, калі гэта будзе зручна для Вас у гэтым ці наступным годзе для камфартабельнага адпачынку. Наш прадстаўнік прыбудзе ў Мінск 5 верасня з Мюнхена. Шчыра Ваш — Джэк Мецью. Вашынгтон—Варшава, ЗША—Польшча, 19.08.1996 г.” Сямён Шарэцкі паведаміў, што афіцыйна звернецца ў КДБ і Генеральную пракуратуру з заявай правесці расследаванне гэтай правакацыі. Палітычныя аглядальнікі лічаць яе пачаткам буйнамаштабнай акцыі па дыскрэдытацыі спікера парламента.

**Замест давыбараў — трансфармацыя**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адхіліў магчымасць правядзення давыбараў у цяперашні склад парламента адначасова з запланаваным на 7 лістапада ўсенародным рэферэндумам. Па яго словах, згодна з праектам новай канстытуцыі, у Беларусі будзе функцыянаваць двухпалатны парламент. Прэзідэнт даў зразумець, што мяркуецца трансфармаваць цяперашні Вярхоўны Савет у новы парламент — Нацыянальны Сход, дзе будуць працаваць цяперашнія дэпутаты.

**Прэзідэнцкі сход**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб скліканні ўсебеларускага народнага сходу, які адбудзецца 19 кастрычніка г.г. у Менску. Устаноўлены склад удзельнікаў сходу колькасцю 5 тысяч чалавек ад усіх абласцей. На абмеркаванне сходу будуць вынесены асноўныя палажэнні праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, праект новай рэдакцыі канстытуцыі і пытанні на рэферэндум.

**Чыгуначная злачыннасць**

У канцы жніўня ў Брэсце прайшла нарада працаўнікоў упраўленняў унутраных спраў на транспарце міністэрстваў унутраных спраў Расеі і Беларусі і галоўнай камендатуры паліцыі Польшчы. Мэта нарады — абмеркаваць праблемы барацьбы са злачыннасцю на чыгунцы ды выпрацаваць меры па абароне пасажыраў і спыненню ўсялякіх правапарушэнняў.

**Пікетаванне пракуратуры**

Прадстаўнікі Беларускага народнага фронту правялі пікетаванне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Каля трыццаці ўдзельнікаў акцыі з бел-чырвона-белымі сцягамі трымалі плакаты, сярод якіх былі і такога зместу: „Мы чакаем бяспечнага вяртання Пязьняка і Навумчыка на Радзіму!” Падчас правядзення пікету паміж яго ўдзельнікамі і міліцыяй ніякіх сутыкненняў не было. Быў затрыманы толькі для складання пратакола арганізатар акцыі Алесь Бялецкі, якога пасля правядзення адпаведных фармальнасцей пусцілі.

**Пратэст гандляроў**

Напалову пустымі былі 28 жніўня г.г. прылаўкі адзінаццаці рынкаў Менска. Каля 5 тысяч прадаўцоў спынілі гандаль і сабраліся на гарадскім стадыёне „Дынама” на стыхійны сход. Рыначныя гандляры выступілі супраць нядаўняга рашэння Менскага гарадскога выканаўчага камітэта аб парадку ўплаты падатку на прыбытак і падаходнага падатку пры рэалізацыі тавараў. У выніку Гарвыканкам прыпыніў выкананне свайго рашэння да часу прыняцця новага.

# „Лявоны" ў Старым Беразове

Можа нехта і здзівіцца, што я адазваўся, але як тут не напісаць, калі „Лявоны" прыехалі да нас. Яшчэ доўга вёска будзе памятаць вечар 9 жніўня, калі выступілі артысты з Воранава на Беларусі. А ўсё гэта адбылося дзякуючы Янку Сычэўскаму і Валі Ласкевіч з БГКТ, якія далі жыхарам Старога Беразова магчымасць пабачыць, паслухаць і правесці цёплы, летні вечар з песняй, музыкай і жартамі. Вялікае дзякуй ім за тое, што прывезлі нам хаця жменьку роднай культуры. Але людзям гэтага было мала. Яны не хацелі адпускаць артыстаў са сцэны, не шкадавалі рук для апладысментаў. Прыемна было глядзець на вясёлых і задаволеных аднавяскоўцаў. Такіх радасных хвілін сялянам, стомленым жнівом, патрэба больш. Песня зрабіла сваё, а задзірыстыя і таленавітыя выканаўцы не аднаму выціснулі слязу з вачэй. Не сорамна ў такі момант і праслязіцца.

Шкада толькі аднаго: канцэрт хутка скончыўся. Артыстаў таксама было шкада, бо аж памакрэлі бяднягі. Няхай аж нам жывуць людзі, якія дбаюць аб песнях, культуры і нашым народзе!

Хопіць пабываць на беларускіх фэстах, каб даведацца, чым жывуць людзі, што гавораць, чаго патрабуюць, як ацэньваюць арганізатараў. Не сустракаў я яшчэ ў нас такіх, якія б аплёўвалі сваё асяроддзе, хаця ўсім вядома, што яшчэ такі не нарадзіўся, які б усіх задаволіў. Няма ў нас такіх, якія б белае чорным называлі. Калі не верыце, прыязджайце да нас і пераканаецеся ў гэтым самі. Мужыку на вёсцы не хапае гумару, песні і жартаў, бо палітыкі і перадвыбарчых абяцанняў мае ён па горла. У нас цяпер адзіная *разрыўка* — гэта беларускі фэст. Трымайце так далей, арганізатары! Вялікае вам за гэта дзякуй! Не забывайце пра нас!

**Грыша Мароз**

# Дзеля справядлівага транспарту

Хто заплаціць кампенсацыю чалавеку, якога прадуе вецер, што прарываецца адкрытымі напераздзе вокнамі і крышкамі ў салон аўтобуса, падчас язды на гарадскім транспарце ў Беластоку? Крышка на даху аўтобуса павінна быць адкрыта толькі ззаду, каб не дуў вецер у сярэдзіну салона. Тады хворыя будуць спераду, а здаравякі ззаду і праезд будзе справядлівы. Ад скразнякоў у гарадскім транспарце паўстае многа калецтва і таму ўлады горада павінны неадкладна ажыццявіць маю прапанову.

Маю таксама пытанні да дырэкцыі гарадской камунікацыі ў Беластоку: Чаму раніцай няма на чым даехаць на базар пры вуліцы Кавалерыйскай з квартала Дзесяціны і з вакзалаў ПКС і ПКП? Мова тут пра аўтобусы ліній 7, 10, 11, 19 і 23. Чаму ў выхадныя дні з прыпынка на Дзесяцінах не ездзяць аўтобусы, якія ў будзень ад'язджаюць у 4.52, 5.09, 5.22, 5.41 і г.д. У выхадныя дні больш людзей ездзіць на базар, чым у будныя, і таму на гэтай лініі аўтобусы павінны хадзіць пяць разоў у гадзіну і апошняя машына мае пакідаць трасу ў 19.00, а не ў 17.02. На лінію 19 з вуліцы Гаёвай павінны у 5.00 і ў 5.30 ад'язджаць аўтобусы на вуліцу Цыялкоўскага пры базары. Ад вакзала ПКП першы аўтобус лініі 10 павінен ад'язджаць у 4.36 у будныя і ў 4.50 у святочныя дні і ездзіць пяць разоў у гадзіну; гэта вырашыць праблемы з даездам на рынак. Таксама аўтобус лініі 23 павінен ад'язджаць з вакзала ПКС у 4.50 і ездзіць круглы дзень 5 разоў у гадзіну. А чаму па лініі 5 аўтобусы ездзяць 12 разоў у гадзіну цэлы тыдзень? Ці ж гэта не сабатаж: колькі яны спаляць паліва возячы паветра? Гэтай трасай у напрамку Дзесяцін ніхто не едзе, і чаго тыя аўтобусы туды ходзяць. Пры вуліцы Цыялкоўскага каля базара трэба кіёск паставіць. У выхадныя, калі кіёскі не працуюць, білеты павінен прадаваць вадзіцель, або паставіць аўтамат, каб укінуць грошы і білет атрымаць. А так, кіёскі закрыюць і павыпускаюць гарадскіх стражнікаў, што аж шэра, каб штрафаваць. Глядзіце, каб вашу хітрасць людзі не скасавалі! На нейкай пасадзе мусіць сядзіць неадпаведная асоба, і ці яна да чаго дрэннага не давядзе, калі можа вылецець аж на месяц.

**С. Хадакоўскі**

# Чаму так?

Ад даўжэйшага часу прыкмячаю, што пісьманосец не выплачвае мне ўсёй пенсіі, якая пазначаная на паштовым пераводзе. Калісьці ён заяўляў добрасумленна, што няма ў яго трыста ці пяць соцень старых злотаў. І сапраўды, дробязь. Што цяпер купіш за такую суму? Нават на каробку запалак не хопіць. Цяпер пісьманосец пакідае ўжо кожную „канцоўку", значыцца, адну, дзве, тры, а нават чатыры з лішнім тысячы. Калі так глянуць, дык у адным толькі месяцы з пенсіянераў застаецца яму немалая сумка. Людзі па-рознаму ставяцца да такіх пісьманосцаў. Адны па жаданню, а нават самі ўручаюць нейкую суму за тое, што прынёс яму „зарплату" на месца, іншыя, — крывым вокам паглядаюць на гэта, але не адважацца „ў вочы" сказаць аб гэтым пісьманосцу. Вядома, кожнаму чалавеку залатоўка цэніцца, а пенсіянеру — асабліва.

У Чаромсе некаторыя пенсіянеры заявілі сваім пісьманосцам, што сваю пенсію самі будуць браць на пошце. І таму ў кожны апошні дзень месяца пошту наведваюць дзесяткі пенсіянераў і становяцца ў чарзе за „палучкай". Аднойчы мне прыйшлося пачуць, што першая ў чарзе жанчына прыйшла пад пошту а трэцяй гадзіне зранку. Ці гэта не смешна? Няўжо ж у яе не было грошай у хаце? А мо, гэта проста нейкае дзівацтва?

Так ці інакш, не мне ў тым разбірацца. Я там не пайду за сваёй пенсіяй у дзве ці тры гадзіны раніцы, каб быць першым. Я магу і пасля абеду ўзяць свае грошы.

А праўду кажучы, не пагневаюся на пісьманосца за тое, калі і на другі дзень прынясе грошы дахаты. Толькі хай выплаціць усё „да капейкі", як гэта гаворыцца ў народзе. Трэба ўрэшце зразумець, што кожнаму чалавеку плаціцца тое, што яму належыцца. Так сама пенсіянеру, так сама і пісьманосцу.

**(ус)**

# Людзі горшыя за звяроў

Уначы пасля Сплення ў Чыжах сабакі загрызлі дзве леташнія ялоўкі, да двух метраў кожная. Увагналі ў меліярацыйны роў і парвалі на шкуматы.

Час ад часу паказваюць у тэлебачанні жахлівыя напады сабак на дзяцей. Канчаюцца яны страшнымі ранамі, калецтвам або нават і смерцю дзіцяці.

Хто тут вінаваты, звяры ці іхнія ўласнікі? Адны выхоўваюць здзічэлых сабак на ланцугах і калі такі сарвецца, гатовы кідацца на ўсё вакол сябе, што толькі варушыцца. Іншыя — пайшла цяпер такая страшная мода — водзяць пародзістых забойцаў на паваддку па гарадскіх парках і тратуарах. Часта відаць дзяцей мала большых за ротвейлера ці дабермана, якіх вядуць на прывязі.

Летам заўсёды ўзрастае колькасць бяздомных сабак. Людзі купляюць шчанюка пад ёлку дзіцяці. Шчанюк вырастае і перастае быць такой мілай пухнаценькай цацкай. А да таго, што з ім рабіць у водпуску?

Адна жыхарка Чыжоў бачыла, як элегантны мужчына вывеў каля Збуча вялічэзнага сабаку з заходняй машыны, а сам папёр без аглядкі.

Хто верне таму гаспадару страты (якіх 15 мільёнаў)? А што будзе, калі гэтыя самыя сабакі сустрэнуць дзе на дарозе дзяцей? **(ак)**

# Рэкалекцыі для дзяцей з Беларусі

У Новым Каўкове каля Ольштына штогоду арганізуюцца рэкалекцыі (гавенні) для дзяцей і моладзі Вармінскай архідыяцэзіі. Ад некалькіх гадоў гасцююць тутака і дзеці з былога СССР: у мінулым годзе з Калінінградскай вобласці, а сёлета — з Дзятлава ў Беларусі. Сярод гасцей ёсць і каталікі, і праваслаўныя. Пабыўку дзяцей фінансуе нямецкі спонсар. Апрача спартыўных і музычных заняткаў, дзеці пабывалі на экскурсіях у Святой Ліпцы, Ольштыне, Мальбарку і Грунвальдзе.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Цягнік-прывід

Ужо некалькі гадоў з Беластока цераз Чаромху курсіруе прамы цягнік у Брэст, які ад'язджае ў 9.40. Называюць яго „пшэмытнікам" („кантрабандыстам"). Да Чаромхі, значыцца да пагранічнай станцыі, карыстаюцца ім усе падарожныя, далей — прадпрымальныя „турысты".

Не раз наглядаў я, калі цягнік вяртаўся з Брэста ў 19.15. Колькасць пасажыраў залежыць ад дня ў тыдні. У панядзелак амаль бязлюдна. У наступныя дні падарожных прыбывае, а перад нядзеляй іх найбольш. Вядома, у суботу і нядзелю ў нас выхадныя, таму суседзям з-за рубяжа найбольш зручны час для продажу сваіх тавараў. А вядома, чым зараз таргуюць у Чаромсе ці Кляшчэлях — гарэлкай і папяросамі. Гэты тавар дае кожнаму „турысту" найбольшы прыбытак.

Пастаянны назіральнік без цяжкасці прыкмеціць, што „пшэмытнікам" ездзяць амаль тыя ж самыя пасажыры, псеўдатурысты, як іх называюць у чаромхаўскім наваколлі. Найлепш у гэтым разбіраюцца мясцовыя мытнікі і пагранічнікі.

Ездзяць, дык няхай ездзяць! Бог з імі. Мае грошы чалавек і здароўе, няхай імі карыстаецца. Толькі па-чалавечаму...

На пяць вагонаў саставу (пачаткова ездзіла шэсць) няма ніводнага ў нармальным стане. Паабрываныя сядзенні і пліты пад столлю, пагнутыя рамы вокнаў, дзіркі ў сценах нікога ўжо не здзіўляюць. У туалетах, і не гавары!. Глядзі, каб нешта на галаву не звалілася. У час дажджу вада на галаву ручайком цячэ так, што чалавек спяшаецца „сваю патрэбу" чым хутчэй аформіць. У тым месцы найлепш кантрабандыстам хаваць тавар ад мытнікаў.

Не было ніводнага дня, каб мытнікі ў Чаромсе не выносілі з цягніка па некалькі мяшкоў гарэлкі. Падслухаў я аднойчы на пероне, што адной групы „турыстаў" войска „выцягнула" з туалета каля чатырохсот літраў спірту ў пластмасавых бутэльках. Як такую колькасць можна схаваць? Няўжо людзі не бачаць? Бачаць пасажыры, бачаць і чыгуначнікі, ды на ўсё вочы прыплюшчваюць!

— А як можа быць інакш, — кажуць кандуктары. — Паспрабуй нешта сказаць такому асобеннаму! У Беластоку ўвечары азірайся тады на ўсе бакі, каб нешта табе на чэрап не звалілася. Пасля звернутай увагі трэба скрупулёзна ўсяго ў вагоне пільнаваць. А то і сядзенне з лаўкі за акно выкінуць, і шыбу ці люстра ў туалеце разаб'юць, Ды іншае свінства зробяць. Усё „на злосць". А кандуктару трэба састаў цягніка ў Беластоку вагоннікам перадаць у поўным парадку. Калі будуць бракі, трэба паказаць віноўнага. А дзе яго знойдзеш, калі ён ужо ў Леўках ці Страблі выскачыў.

Экіпажу цягніка немагчыма ўсяго дапільнаваць у такіх выпадках. Дзве асобы ў нармальных умовах змогуць выканаць свае службовыя абавязкі, але з хуліганамі нічога не зваююць.

Не разумею, чаму Цэнтральная дырэкцыя ПКП дазваляе на такое варварства і разбуранне грамадскай маёмасці. Якія кошты нясе дзяржаўная чыгунка па такому повадy? Няўжо ж нельга вырашыць гэту праблему? Неаднойчы я чуў ад чыгуначнікаў, што можна. Хопіць увесці змяненні ў курсіраванні цягніка. Поезд, які ад'язджае з Беластока ў 9.40, спыняў бы свой ход у Чаромсе, а ў Брэст з Чаромхі ў 13.25 адходзіў бы іншы цягнік. Тое ж самае было б і на зваротным маршруце. Чаромха была б апошняй станцыяй для цягніка з Брэста, які прыходзіць у 19.15. Пасажырам прыходзілася б рабіць перасадку. У такіх выпадках кантрабандыстам не было б сэнсу захоўваць свой „тавар" за сценкамі вагонаў, бо ў Чаромсе яго ўжо не маглі б забраць. Ды хто тады паехаў бы на такім цягніку?

І тут асноўны сэнс галаваломкі. Вярхушка лепш будзе вывальваць грошы на рамонт і абсталяванне вагонаў цягніка-прывіду (як яго народ называе) са свайго бюджэту, чым увядзе нейкія змяненні. Ім, відавочна, гэта лепш аплачваецца. Толькі ці сапраўды так яно ёсць?

**К. Млынарскі**

# Еўропа без межаў

Колькі разоў давялося чуць, што варта зрабіць у Беластоку фестываль нацыянальных меншасцей. Падчас, як у нас думаюць, за справу бяруцца іншыя. Ад некалькіх гадоў свой фестываль ладзіць Гданьск. На пераломе жніўня і верасня ў Легніцы адбыўся Міжнародны фальклорны фестываль нацыянальных і этнічных меншасцей „Еўропа без межаў'96".

Легніца — горад, які пасля вайны быў шматнацыянальным. Апрача палякаў, жылі тут тысячы „рускіх" — савецкіх вайскоўцаў і іхніх сямей. У выніку акцыі „Вісла" трапілі тут украінцы. Яны стварылі тут ліцэй з украінскай мовай навучання, у якім існуе некалькі мастацкіх калектываў. Была тут і шматлікая яўрэйская грамада, са сваім ліцэем, домам культуры, спартыўнымі клубамі, вытворчымі кааператывамі, ды нават і партыямі. Украінскі вучоны і былы пасол у Сейм Уладзімір Мокры расказваў мне калісьці, што ўкраінская і яўрэйская моладзь супольна праходзілі дапрызыўную падрыхтоўку. Калі іхняя калона ішла па вуліцах горада, вучні жартавалі самі з сябе, што маршыруе „ўкраінска-яўрэйскі легіён". Тут вучыўся і цяперашні пасол Сейма Міраслаў Чэх.

Легніца з гадамі страціла свой шматнацыянальны характар. Пакінулі яе амаль усе яўрэі, таксама грэкі і македонцы, якія жылі тут у даволі вялікіх групах. Нядаўна выехалі ўсе расейцы. Засталіся аўтахтоны — немцы, якіх некалькі соцень належыць да Нямецкага культурна-грамадскага таварыства. Засталося некалькі дзесяткаў яўрэяў, якія маюць сваю сінагогу. І, перш за ўсё, засталіся ў Легніцы і ў наваколлі ўкраінцы і лэмкі. Тыя лэмкі, якія лічаць сябе асобнай нацыяй, стварылі свае аб'яднанне. Яно штогод арганізуе ў Міхалове, што ў Легніцкім ваяводстве, сваю „Ватру", на якую прыязджаюць тысячы лэмкаў. Некалькі гадоў таму паўстаў лэмкаўскі ансамбль „Кіпэрсі", які заваяваў сабе папулярнасць як сярод лэмкаў, так і тутэйшых палякаў.

Заснавальнік ансамбля Ежы Стажынскі з'яўляецца душой фестывалю. А мерапрыемства гэтае — аграмаднае. Прыехалі тут лужыцкія сербы, баскі з Іспаніі, фрыулы з Італіі, харваты з Венгрыі, русіны бачванскія з Югаславіі, яўрэі з Украіны; літоўцы, украінцы, немцы, кашубы з Польшчы ды палякі з Літвы і Чэхіі. На жаль, не даехала наша „Маланка". Не мог я прычакаць „Чарамшыну", якая мела выступіць у канцэрце фальклорных ансамбляў.

Акрамя канцэртаў у Легніцы і цэлым наваколлі, адбываліся шэсці па вуліцах горада, папулярна-навуковая сесія „Невядомыя суседзі", паэтычная вечарына і мастацкія выстаўкі.

Магчыма, на будучы год фестываль адбудзецца па-суседску, у Нямеччыне, а ладзіць яго будзе „Дамавіна" — арганізацыя лужыцкіх сербаў. Праз два гады фестываль чакаюць у Легніцы. Прадстаўнікі ўлад вельмі задаволеныя поспехам фестывалю ў публікі, запэўнівалі, што адбудзецца ён безумоўна.

**Алег ЛАТЫШОНАК**



3 верасня г.г. віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела ўручыў беларускаму пісьменніку **Сакрату ЯНОВІЧУ** Krzyż Kawalerski Orderu Odrodzenia Polski, прысвоены яму прэзідэнтам Рэчы Паспалітай **Аляксандрам КВАСЬНЕЎСКІМ**. Наступнага дня Сакрат Яновіч адзначаў важную падзею свайго жыцця — юбілей 60-годдзя з дня нараджэння. Як заўсёды пры такой нагодзе выдатным людзям ніхто не шкадуе цёплых слоў. Міністр Ягела назваў Сакрата маэстрам польскай і беларускай моў, стваральнікам двух культур. Заявіў таксама, што прэзідэнт Квасьнеўскі з вялікай прыемнасцю занёс Сакрата Яновіча ў спісак кавалераў Ордэна Адраджэння Польшчы. Дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі выказаў у адрас пісьменніка пажаданне напісаць раман пра суіснаванне польскага і беларускага народаў. Віцэ-консул Рэспублікі Беларусь Павел Латушка ўручыў пісьменніку віншавальны ліст ад улад Беларусі, упрыгожаны новым дзяржаўным гербам. Славуты мастак з Валілаў, рэдактар *Гарадоцкіх навін* Лявон Тарасэвіч абяцаў Юбіляру нават палітычнае престанішча ў сваёй гміне, калі б надаела яму жыць у Крынках. Не шкадавалі таксама свайго інтэлекту, выказваючы пажаданні, іншыя выдатныя беларускія і польскія пісьменнікі Беласточчыны.

**(рэд.)**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

# Дырэктар паведаміў

— Нацыскі некаторых журналістаў на індывідуальныя размовы са мною прымусілі мяне склікаць гэту канферэнцыю, — сказаў 4 верасня г.г. дырэктар Рэгіянальнага асяродка тэлебачання ў Беластоку **Казімеж Пуцілоўскі**.

На пачатку дырэктар зрабіў засцярогу, што ніколі ён не ўважаў і не ўважае, быццам няма ў тэлебачанні месца для праграм на іншай, чым польская, мове. Перадачы, у якіх даюцца цітры, добра выконваюць сваю ролю і з'яўляюцца даступнымі ў сваёй інфармацыйнасці для ўсёй публікі.

— Я прыхільнік адкрытасці ў пабудове нашага рэгіянальнага асяродка, — сказаў К. Пуцілоўскі, — хачу тут паставіць націск на тое, што асяродак гэты мае быць менавіта рэгіянальным, а не беластоцкім. Само сабой тут разумеецца, што з-за яго размяшчэння горад Беласток і Беластоцкае ваяводства будуць у найлепшай сітуацыі.

На канферэнцыі дырэктару К. Пуцілоўскаму ставіўся шэраг пытанняў, уключаючы ў гэта і запыты пра яго палітычныя погляды. Вось, у гэтай апошняй справе дырэктар сказаў, што няма ў яго жыцці нічога, чаго сёння ён мог бы пасаромецца. А калі ідзе пра канкрэтную палітычную сімпатыю, дык ён уважае, што распаўсюджванне такіх вестак можа толькі пашкодзіць узнікненню беластоцкага асяродка. Няма сітуацыі, дапоўніў ён, каб якісьці палітычны ўхіл не захацеў са мною размаўляць.

На пытанне, ці вытрымае дырэктар прынцып палітычнай бесстароннасці, К. Пуцілоўскі адказаў, што развітаецца з кожным працаўніком, які свае схільнасці будзе прапагандаваць у эфіры. Калі ж ідзе пра агульны выгляд і раўнавагу праграм на палітычныя тэмы (пазбегчы іх немагчыма), дык можна завесці падрабязны падлік, каб раўнавагу такую датрымаць.

А што вы зробіце, калі патэлефануе вам нейкі ўплывовы пасол Беластоцкай зямлі і пажадае сабе, каб не пускаць таго ці таго? Я падзякую яму за падказку, — адказаў дырэктар, — а калі б аказалася яна дарэчнай, дык можа і папрашу пасла на каву ці каньяк.

А як задаволіць закон пра прадуцэнцкую сістэму ў публічным тэлебачанні? Дырэктар Пуцілоўскі спадзяваецца, што ў Беластоку ўзнікнуць прадуцэнцкія гурты і аб'яднанні, ад якіх можна будзе купляць праграмы.

На пытанне пра рэлігійныя тэмы ў праграмах асяродка, а таксама і асобу праграмнага дырэктара, К. Пуцілоўскі адказу не даў, бо „сам яшчэ не ведае".

На думку К. Пуцілоўскага рэгіянальны асяродак тэлебачання ў Беластоку павінен быць мадэрнай установай, эксперыментальнай. Не можа ён стацца складам экспанатаў тэхнікі з іншых асяродкаў у краіне. На яго думку, няма пакуль прадпасылак, якія дазвалялі б думаць, што ўправа тэлебачання не адвядзе ў Беласток адпаведных дзеля гэтай мэты сродкаў. **(ам)**

# Новы віцэ-консул

Загадам міністра замежных спраў Беларусі новым віцэ-консулам у Беластоку (на месца Ігара Хадасевіча) назначаны **Павел Паўлавіч Латушка**. 29 жніўня г.г. у Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Беластоку пры вул. Варынскага адбылася прэс-канферэнцыя, мэтай якой была прэзентацыя новага дыпламата.

Прэзентацыю гэту зрабіў генеральны консул Міхаіл Слямнёў, кажучы, што гэтая сустрэча з журналістамі далёка прыемнейшая ад тых ранейшых. Павел Латушка (1973 года нараджэння) працаваў дагэтуль у Міністэрстве замежных спраў у Менску — у консульскім дэпартаменце. Па адукацыі — юрыст. У Беластоку мае ён займацца пытаннямі набывання і страты грамадзянства, пытаннямі арышту грамадзян Беларусі ў Польшчы, а таксама і справамі грамадзян, якія былі затрыманы ў выніку куплі крадзенай машыны. У гэтым месяцы П. Латушка паведаміў, што 42 грамадзян Беларусі знаходзіцца ў турмах, а 597 у арышце — даныя датычаць той часткі Польшчы, на якую расцягваецца паўнамоцтва Генеральнага консульства ў Беластоку. П. Латушка паведаміў таксама, што на штаце пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве працуе прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі ген. Сяргей Рухлядзеў. Яго задача — каардынацыя дзеянняў польскіх і беларускіх органаў у змаганні з арганізаванай злачыннасцю.

На заканчэнне сустрэчы П. Латушка сказаў, што ў сваёй кар'еры дыпламата ён заўсёды марыў не пра Лондан і не пра Нью-Йорк, а менавіта пра Польшчу або Літву. Яго прыезд у Беласток і ёсць здзяйсненне гэтай думкі. **(ам)**

# Старая школа на новым месцы

(працяг са стар. 1)

статкова. Пяць апошніх гадоў школа ў Пасынках, практычна, працавала са свядомасцю няўхільнай ліквідацыі. Летась вучылася ў ёй усяго 35 асоб. Сёлета, калі дайшлі дзеці з Крывой і Локніцы, колькасць вучняў амаль падвоілася. Хаця адной з большых праблем у першы дзень на новым месцы было палічыць навучэнцаў. Справа ў тым, што да апошняга дня складаліся бацькамі новыя заявы, а некаторыя маглі і выпісаць дзяцей у сувязі з пераездам у горад. Спыніліся, здаецца, на лічбе 63.

Не скончаны быў яшчэ рамонт кацельні. Суседзі, праз якіх агарод адводзіцца дажджавая вада, патрабуюць за гэта кампенсацыі. Трэба раўняць спартыўную пляцоўку і паставіць на ёй хоць якія футбольныя вароты. Невялікі спартыўны зал (якога, дарэчы, не было ў Пасынках) таксама з голымі сценамі. Дамоўленасці з бацькамі патрабуе справа харчавання дзяцей, ці варыць тут нейкую гарбату, ці давозіць адкуль абеды. У школе ёсць месца, дзе можна выдаваць абеды, але няма варункаў зварыць іх.

— Усе дапаможнікі ў нас старыя, з Пасынак, — кажа дырэктар Хількевіч. — Там засталася яшчэ бібліятэка, але я думаю, на працягу месяца мы яе перавязем.

Дзяцей з Пасынак, Зубава, Піліпак, Трашчотак, Мякіш, Локніцы ў Крывую будзе давозіць новы гмінны аўтобус, які абслугоўвае таксама школу ў Храбалах.



Першы дзень у школе.



Наймалодшыя вучні.

— Таму мы ўрокі будзем пачынаць у 8.50, — кажа дырэктар, — інакш дзеці не даедуць.

Таксама настаўнікам — усе восем жывуць у Бельску — так будзе больш выгадна, бо з Бельска аўтобус у Крывую выходзіць у 8.15. Горш з вяртаннем, але гэта ў параўнанні са стратай працы зусім дробная нязручнасць.

Але і школа ў Крывой, выглядае, часовая. Колькасць дзяцей тут будзе змяншацца з году ў год. Настаўнікі разлічваюць, што пратрывае яна хоць гадоў пяць.

Цяжкія ўмовы — брак сучасных дапаможнікаў, спалучаныя ад першага па восьмы класы — часткова рэкампенсуе магчымасць навучання аж трох моў. Ад пятага класа ўсе абавязкова вывучаюць расейскую мову.

— Жадаючыя могуць бясплатна вывучаць англійскую мову, — гаварыў на ўрачыстым адкрыцці дырэктар Хількевіч, — а таксама беларускую, паколькі мы тут беларусы, дык трэба шанаваць і захоўваць традыцыю.

У Пасынках амаль усе вучні хадзілі на ўрокі беларускай мовы.

— Тут таксама, — казала настаўніца **Раіса Ваўранюк**, — толькі лічаныя адзінкі не пажадалі вывучаць беларускую мову.

Войт Юры Ігнацюк, у сваю чаргу, запрасіў усіх у школе ў Крывой на нядзелю 8 верасня, на арганізаваныя Саюзам украінцаў Падляшша дажынкі:

— Дарослым фундуем дармовае піва, а моладзі — марозіва.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Адкрыццё школы

(працяг са стар. 1)

куль што гімнастычнай залы, але яе пабудова ўжо пачалася. У школе, акрамя класных кабінетаў, знаходзіцца вялікая аўдыторыя, якая будзе скарыстоўвацца таксама для культурных мерапрыемстваў, арганізаваных у горадзе. У будынку памесціцца таксама гмінная бібліятэка і самаўрадавы садзік (прадшколле).

На адкрыцці з'явілася многа гасцей, у тым ліку пасол Рэспублікі Беларусь Віктар Бурскі. Школу высвяціў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій і ардынарый Драгічынскай каталіцкай дыяцэзіі біскуп Антоні Дыдыч. Апрача прамоваў, сабраныя ў аўдыторыі жыхары горада і госці маглі паглядзець выстаўку прац Тамары Тарасевіч і паглядзець патрыятычны мантаж у выкананні школьнікаў. Вучні праспявалі таксама дзве беларускія песні: „Мамачка" і „Шэры кот".

Беларускую мову будуць вывучаць 68 вучняў з ліку 278 школьнікаў, г.зн. 25%. Навучаць яе будзе сп. Ірына Тамашук, настаўніца, якая разам з вучнямі перайшла са зліквідаванай школы ў Палічнай. Кабінет беларускай мовы будзе супольны з кабінетам польскай мовы. Ёсць падручнікі, крыху беларускіх кніжак для школьнай бібліятэкі падарыў пасол Бурскі.

Дырэктара школы Ежы Якубоўскага я спытаў пра чуткі аб увядзенні з гэтага года навучання ўкраінскай мовы. Аказваецца, некаторыя бацькі спрабавалі сабраць групу ахвотных, але такіх не знайшлося. Такім чынам навучання ўкраінскай мовы ў Кляшчэлях не ўдалося аднавіць.

Пішу гэта без лішняга трыумфалізму. Лёс навучання беларускай мовы ў гэтай школе залежыць перш за ўсё ад актыўнасці беларусаў, а не чыёйсьці няўдачы. Пабудова школы ў Кляшчэлях неаднойчы ўспаміналася ва ўрадавых польска-беларускіх размовах як паралельная з пабудовай польскай школы ў Гродне. Варта паклапаціцца, каб навучанне беларускай мовы замацавалася ў школе, якая столькі скарыстала на беларушчыне.

**Алег Латышонак**

# Новы подых

(працяг са стар. 1)

чыць, што гарадоцкая школа налічвае 620 дзетак і 80% вывучае праваслаўную рэлігію. Беларуская мова трымалася тут дзякуючы экскурсіям, гульням, конкурсам і спевам. У школе яе статус і далей сярмяжны, ахутаны комплексамі і недарэчнасцямі.

— To takie piąte koło u wozu, — гавораць найчасцей самі беларусы-настаўнікі пра сваю мову. Але ёсць шанс на лепшае. Дзякуючы заангажаванасці Лявона Тарасэвіча ды Гміннай управы можа і тут нешта змяніцца. Згаданую беларусістку знайшлі на Бельшчыне і нават забяспечылі яе кватэрай. Лявон Тарасэвіч сам запрапанаваў упрыгожанне беларускай залы. З гэтага году ў Гарадку будуць новыя вучні з ліквідаваных школ у Вейках і Падазеранах. Усе яны маюць запэўнены даезд і таннае харчаванне (адзін абед каштуе залатоўку). Дзякуючы гэтым вучням агульная колькасць навучэнцаў не паменшыцца. У наймалодшых класах, аднак, назіраецца дэмаграфічны спад.

— Раней хапала першакласнікаў на тры поўныя аддзелы, — кажа Вера Тарасэвіч, — а зараз мы назбіралі два класы, і гэтыя не такія вялікія як раней!

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



Мастацкая частка ў выкананні дзяўчат з VIII класа.

# Шпрэевыя „патрыёты"

(працяг са стар. 1)

кай урадавай дэлегацыі; другі раз — у маі. Толькі ў пятніцу скончыўся рамонт, які быў патрэбны дзеля прыбрання майскіх надпісаў. Шпрэй рэагуе з атынкоўкай і зроблены ім надпіс немагчыма проста замаляваць. Трэба збіваць усю атынкоўку і класці новую. Усю працу, вартую 2 000 зл., выканала грамадскім чынам Бельска-Падляшскае будаўнічае прадпрыемства — ВРРВ. І вось усё трэба пачынаць нанава.

Як сказаў нам дырэктар II ліцэя спадар Яўген Сачко, справа ранейшых надпісаў кіраўніцтвам школы не падавалася да публічнага ведама. У гэты раз вырашылі зрабіць яе публічна вядомай, бо баяцца, што за надпісамі пойдуць іншыя эксцэсы. Тое, што сталася, вельмі адмоўна паўплывае на дыдактычны і выхаваўчы працэсы ў школе. І гэта якраз цяпер, калі школа дасягнула высокага ўзроўню навучання. Паліцыя паведаміла дырэктару, што „шпрэеўцаў" вельмі цяжка злавіць, хіба што выпадкова. Усё-такі, на думку сп. Сачко, не толькі паліцыя, але і жыхары горада павінны зрабіць усё магчымае, каб злавіць вандалаў, чые дзеянні ўводзяць атмасферу нацыянальнай нецярпімасці ў Гайнаўцы.

**Алег Латышонак**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Першы дзень у школе!



*Пачатак школьнага года ў Гарадку.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Першы дзень у школе астаецца ў нашай памяці на ўсё жыццё. Тады знаёмімся з новымі сябрамі, настаўнікамі, новымі абавязкамі. Тады таксама разлучаемся з бацькамі і сям'ёй. І з гэтай прычыны не адзін заплача.

У Гарадку вельмі адважныя першакласнікі. Праўда, папрыходзілі яны ў першы дзень яшчэ з бацькамі, але не відаць было сярод іх ні аднаой плаксы. Дзеткі вылучаліся з ліку старэйшых школьнікаў. Іх элегантныя, чорна-белыя касцюмы і затрывожаныя тварыкі падкрэслівалі важнасць першай сустрэчы са школай.

— Буду найлепшай вучаніцай, — гаворыць адна дзяўчынка.

— А я першы навучуся чытаць, — дадае яе сябар.

І сапраўды ў наймалодшых класах найбольш падабаецца школьная штодзённасць. Там не сустрэнеце прагульшчыкаў (wagarowiczów) і класных жулікаў.

**Зорка**

## Сяброўкі з Ласінкі

Наталька Кос і Паўлінка Пашко жывуць у Ласінцы. Там дзяўчаты таксама ходзяць у школу. Гэтыя сяброўкі ярка вылучаюцца з ліку аднагодкаў. Яны і спяваюць, і дэкламуюць, і як ніхто ўмеюць гуляць на школьных перапынках. Не дзіва, што і песенны гурт „Лісічкі", дзе Паўлінка першая салістка, заваёўвае найлепшыя прызы.

Наталька вылучаецца яркай індывідуальнасцю. Дзяўчынка тады, калі ў іхняй школе гасцявала „Зорка", была першай субяседніцай. Да таго ўвесь час карысталася яна беларускай мовай. Варта дадаць, што ў Ласінцы многа такіх сімпатычных дзяцей.

**ЗОРКА**



Фота Г. КАНДРАЦЮК

## Крыжаванка № 37

*(Даслала Кася ЛЕАНЮК з Гайнаўкі)*

Запоўніце клеткі, а атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. сталіца Балгарыі,
2. частка часнаку,
3. подпіс вядомага акцёра,
4. сабака Стася і Нэль,
5. прычоска жанчыны,
6. сабачая нага,
7. у марской вадзе,
8. 1/60 гадзіны,
9. два галубы,
10. кропля з вока,
11. Красуля,
12. 15 хвілін,
13. змеленая пшаніца,
14. забіў Авеля,
15. вартасць тавару,
16. адкрыты М. Складоўскай-Кюры,
17. кусліvae насякомае.




## Вершы Віктара Шведа

### Будзь нармальным

Будзеш надта мяккі —
Цябе зглумяць.
Надта цвёрды будзеш —
Могуць зламаць.

Калі надта салодкі —
Цябе праглынуць.
Будзеш надта горкі —
Табой паплююць.

### Рукі

Богам дадзены нам рукі
Да работы, да навукі,
Падымання і трымання,
Да вітання, да ласкання,

Яды страваў улюбёных
І да ўласнай абароны.
Рука руку заўжды мые,
А абедзьве — твар і шыю.

### Знайшоў прычыну

— Ведаю, — азваўся Федзя
Да матулі гэтак, —
Чаму нашыя суседзі
Не гадуюць дзетак?

— А чаму? — пытае маці
Сыночка знянацку.
— Я не бачыў у іх хаце
Ніводнае цацкі.

## Дзіва

*(беларуская народная казка)*

Жыў-быў бедны чалавек. Пакінуў ён сваю жонку, а сам у свет пайшоў. Ішоў, ішоў, дайшоў да лесу цёмнага. А ў лесе гэтым хатка стаіць, а ў хатцы дзядок сядзіць.

— Можа ў вас, дзядуля, пераначаваць можна?

— Чаму ж не, начуй!

Пасядзелі, пагаварылі, вячэраць час, а на стале ні куска хлеба няма.

— Мый, брат, рукі! — гаворыць стары і сам памыў першы. Селі за стол, а гаспадар і гаворыць.

— Дзіва, ідзі ў хату жыва! Сячыся, рубайся, у гаршчок накладайся, да агню прыстаўляйся і на стол падавайся!

І ўваходзіць у хату індык, сам зарэзаўся, абскубся, да агню прыставіўся, зварыўся і на стол падаўся.

— Еш, брат, толькі касцей не грызі! — кажа гаспадар госцю.

З'елі мужыкі мяса, косці пад стол палажылі.

— Дзіва, збірайся ды і за парог выбірайся, — сказаў дзядок і дзіва яго паслухала. А госцю стала зайздросна і давай старога намаўляць.

— Прадай мне, добры чалавеча, гэтае дзіва!

А дзядзька той адказвае:

— Я за грошы не прадаю, я добрым людзям дарма даю!

І падарыў дзіва чалавеку.

Вярнуўся той усцешаны да жонкі, дзіва паказвае. Зараз у печку яны дроў наклалі, селі за стол і дзіва выклікаюць:

— Дзіва, ідзі ў хату жыва, сячыся, рубайся, у гаршчок накладайся і да агню прыстаўляйся!

Дзіва-індык увайшло, само зарэзалася, абскублося, да агню прыставілася і на стол падалося. З'елі мяса, косці пад стол палажылі і дзіва за парог выправілі.

Так і жылі-бяседавалі пакуль дровы не скончыліся. Трэба было мужыку ў лес за дровамі падацца, а тым часам жонка без працы сядзела і суседку задумала сваю наведаць.

— Ой, каб ты толькі, галубка, ведала, якое ў нас дзіва, — пачала хваліцца баба.

А суседка паверыць не хоча.

— Хадзем, пабачым тваё дзіва; як мясам пачастуеш, тады і паверу, — настойвала яна.

Прыйшлі яны і дзіва завуць. А дзіва і не думае ісці. Узяла баба качаргу і крычыць:

— Вось, я ж табе!

Дык як дасць па ім качаргою — качарга так і прырасла да дзіва, а баба да качаргі. Суседка дапамагаць узялася і яна прырасла. Дзіва павалакло іх у лес, дзе гаспадар дровы загатаўляў.

Пабачыў ён дзіва і жанчыны, пра ўсё здагадаўся. Сваю жонку доўга розуму вучыў, пра будучыя нястачы гаварыў. І калі толькі да качаргі дакрануўся, дзіва адпусціла кабет і да свайго дзядка вярнулася. А мужык з жонкай зноў на кусочак хлеба цяжка працавалі.

**Зорка**

Талон „Зоркі" № 37
15.09.1996




*Як гуляюць і адпачываюць дарослыя.* Мал. Агнешкі КАЧАНОЎСКАЙ — вучаніцы VII класа Пачатковай школы ў Чыжах

# Дзе хто жыве

**Дом можна пабудаваць са шкур звяроў і снегу, з дрэва і камянёў, з пяску і гліны.**

**Так і рабілі людзі. Будавалі жытло з таго, што было пад рукамі. І таму, пэўна, так адрозніваюцца будынкі Азіі ад будынкаў Грэнландыі, афрыканскія хаціны ад рускіх хат.**

**Сёння і мы, дарагія сябры, выправімся ў падарожжа і паглядзім на дамы розных краін.**

**Будан**

Гэта самы просты дом, які можа пабудаваць кожны. Для гэтага часцей за ўсё не трэба мець вялікага спрыту і ўмення.

Помніце, так і зрабілі ў казцы пра трох парасят лянівыя браты Наф-Нафа. Яны вырашылі, што абыдуцца малымі клопатамі: адзін пабудаваў жытло з саломы, другі — з галля. І атрымаліся ў іх сапраўдныя буданы, якія, аднак, не маглі засцерагчы не толькі ад звера, а нават ад не вельмі моцнага ветру.

Такія хаціны будуюць у тых краінах, дзе мяккі клімат і няма сапраўднай зімы: у Афрыцы, у Аўстраліі, на шматлікіх астравах у Ціхім, Індыйскім і Атлантычным акіянах.

Па форме гэтыя пабудовы розныя. У Кеніі, напрыклад, хаціны падобны на бохан хлеба, у Нігерыі яны круглыя, а ёсць і такія, што нагадваюць клеткі на слупах.

Але, нягледзячы на розны выгляд, робяць іх усюды амаль аднолькава. Спачатку забіваюць у зямлю жэрдкі. Атрымліваецца каркас, які ў адных мясцінах аплятаюць мяккай карой, і ўтвараецца нешта падобнае на вялікі перакулены кош, у другіх — пакрываюць плеценымі з саломы дыванкамі-цыноўкамі або абмазваюць глінай. Дахам служаць вялікія лісты пальмаў, галлё дрэў, сухая трава, салома. А падлога часцей за ўсё земляная.

У такім жытле нават мэблі не бывае, толькі ўзнятыя над зямлёй насцілы, самыя простыя ложкі. У некаторых краінах, напрыклад Паўднёвай Амерыкі, ложкі замяняюць плеценыя гамакі-сеткі. У такім гамаку можна не баяцца змей.

Хаціна-будан — самае старажытнае збудаванне. Але будуюць іх бедныя і па сённяшні дзень, выкарыстоўваючы старыя скрынкі, дзверцы аўтамабіляў, кавалкі пластмасы са сметніка. Жудасна бачыць цэлыя „вёскі" з такіх хацін сярод гарадоў з прыгожымі шматпавярховымі дамамі.

**Юрта**

А цяпер перанясемся ў стэп. Куды ні глянь, на многія кіламетры распасцерлася раўніна, на якой няма ні дрэўца, ні кусціка. Але людзі жывуць і тут. Вось удалечыні з'явіўся статак авечак з пастухамі-чабанамі. Пад'ехаўшы бліжэй, яны пачалі разгортваць вялікае палотнішча. Мінула гадзіна, і яно ператварылася ў вялікую круглую палатку. У манголаў, казахаў і іншых стэпавых народаў яна называецца юртай.

Калі ты калі-небудзь трапіш да чабаноў, то ўбачыш такую карціну: пасярэдзіне юрты — ачаг, а зверху ў невялікую круглую адтуліну падае сонечны прамень.

Гаспадары абавязкова скажуць: „Сардэчна запрашаем! Ты прыйшоў да нас у гадзіну зайца, час чай піць!"

Юрта для яе гаспадароў не толькі дом, але і гадзіннік. У версе ўвесь яе круг, як цыферблат, падзелены жэрдкамі на дванаццаць частак. Кожная частка называецца імем якой-небудзь жывёліны: мышы, быка, тыгра, зайца, дракона, змяі, каня, барана, малпы, пеўня, сабакі і свінні. А сонечны прамень, асвятляючы больш за другія адну з жэрдак, і паказвае, якая гадзіна.

У юрце цёпла, як у марозны дзень назе ў валёнку. Бо зроблена юрта з таго ж матэрыялу — лямцу. Лямцавае палотнішча на драўлянай рашотцы возяць з сабой.

Юрта-валёнак надзейнае жытло для чабаноў, геолагаў, аленяводаў і цяпер. У спякоту ў ёй пануе халадок, у мароз цёпла, у дождж суха. І моцныя вятры не страшныя для людзей у такіх збудаваннях.

***(працяг будзе)***

Мікола Гайдук

# Аб нашым мінулым

**9. На заходнім узмежжы**

Заходняя граніца Тураўскага княства пралягала ад вытокаў ракі Прыпяці праз сённяшнія мясцовасці: Уладаву-на-Бугу — Парчэў — Вогінь — Мендзыжэц — Морды — Мукаборы — Венграў — Нур — Візна-на-Нарве — Гонёндз-на-Бебжы і далей на поўнач ад Гродна.

На гэтай ускраіне найважнейшымі былі **Дарагічын** (сённяшні Драгічын-на-Бугу), **Берасце** (Брэст-на-Бугу) і **Гароднія** (Гродна-на-Нёмане). Самы старажытны з іх — гэта Драгічын. Яго назва ў цяперашняй мове значыць — „дрыгавіцкі", „прыналежны дрыгавічам". Там, дзе ён распаложаны, ужо ў VI стагоддзі было паселішча.

Дзякуючы свайму вельмі спрыяльнаму палажэнню на міжнародным бужанскім шляху, у сярэдзіне даволі ўраджайнага і густа заселенага абшару, Драгічын хутка разросся ў важны дрыгавіцкі гаспадарчы асяродак. Жыхары яго мелі ажыўленыя сувязі са старажытнымі дрыгавіцкімі гарадамі: Брэст, Мельнік, Гродна, Пінск, Тураў і з малодшымі: Бельск, Бранск, Сураж, Камянец, Кобрын. У Драгічын наведваліся купцы з розных краін, плывучы з Чорнага мора па Дняпры, Прыпяці, Бугу, Віслe ў Балтыйскае мора. Ехалі яны таксама з Заходняй Еўропы праз Вроцлаў, Плоцк, Драгічын, Ваўкавыск і далей на ўсход, аж у Азію. Ад гэтага вялікага скрыжавання шляхоў з Драгічына адыходзілі іншыя тракты: адзін вёў праз Візну ў Яцвягію, Прусію і Жамойць, другі — праз Гродна ў Полацк і Ноўгарад, трэці — праз Чэрвень, Галіч у гарады над Дунаем. Былі дарогі яшчэ і ў іншых кірунках.

Такія сувязі Драгічына пацвярджаюць знойдзеныя ў ім археолагамі розныя рэчы. З Далёкага Усходу трапляў сюды шоўк, з Візантыі — нагрудныя крыжыкі і іконы, з Урала — волава і медзь, з-пад Балтыйскага мора — бурштын, з Галіча — соль, а з усіх бакоў гналі сюды нявольнікаў, іх скуплялі тут арабскія і візантыйскія купцы.

Князі, баяры і купцы з розных усходнеславянскіх княстваў кіравалі праз Драгічын усялякія тавары ў Польшчу і Заходнюю Еўропу. Тут іх перагружалі або прадавалі і пакінулі тысячы алавяных пломбаў на беразе Буга, на дне ракі, у гарадзе. Пломбамі былі пазначаны і забяспечаны тавары.

Драгічынцы жылі не толькі з гандлю. Яны выплаўлялі жалеза і выраблялі з яго зброю і іншыя рэчы. З рогаў жывёлаў выразалі грабяні, гузікі і іншае. З бярозавай кары гналі дзёгаць для смалавання лодак, гарбавання скураў. Працавалі тут ганчары, ювеліры, краўцы, шаўцы, сяляне, рыбакі, пчаляры, перавозчыкі.

Драгічын быў таксама магутнай дрыгавіцкай крэпасцю. Яна ахоўвала насельніцтва, гандлёвыя шляхі, заходнюю мяжу Тураўскага княства. Мноства знойдзеных стальных лязоў стрэлаў і коп'яў, кавалкі баявых мячоў і тапароў ды іншай зброі, тоўстыя пласты попелу з вуголлем і шматлікія пахавальныя курганы навокал сведчаць пра гераічныя змаганні абаронцаў з захопнікамі. Тут быў знойдзены самы цяжкі меч у Польшчы. Выкапалі таксама тронкі баявога нажа з турынага рабра з выразаным на ім надпісам: „Ежковъ ножъ и украдетъ, проклятъ б (будетъ)" („нож Ежкаў, а хто яго ўкрадзе, будзе пракляты"). Гэта адзін з самых старажытных надпісаў кірыліцай на Беласточчыне, ён сведчыць пра адукаванасць колішніх драгічынскіх вояў.

З вучэннем Ісуса Хрыста насельніцтва заходняй ускраіны Тураўскага княства і асабліва жыхароў Драгічына і Брэста знаёмілі ўжо місіянеры, якія час ад часу з'яўляліся сюды з Вялікамараўскай дзяржавы. На трывала замацавалася тут хрысціянства толькі ў X стагоддзі. Тады пачало на стала прыбываць духавенства з Турава, Кіева, а нават з Балгарыі. Пра ажыўленае духовае жыццё насельнікаў Драгічына сведчыць вялікая колькасць знойдзеных у ім праваслаўных нагрудных крыжыкаў, кавалачкаў каменных іконак, керамічныя пліткі, якімі была выкладзена падлога ў драгічынскай царкве.

**Практыкаванні**

*1. Вызнач па карце Польшчы заходнюю мяжу Тураўскага княства.*

*2. Што калісьці абазначала назва „Драгічын"? Запішы старажытныя назвы Драгічына, Брэста, Гродна.*

*3. Пакажы па карце старажытныя шляхі, што крыжаваліся ў Драгічыне або выходзілі з яго.*

*4. Адкуль у Драгічын траплялі праваслаўныя крыжыкі і іконкі, шоўк, соль, бурштын, медзь?*

*5. Адкуль у Драгічыне ўзяліся алавяныя пломбы?*

*6. Чым займаліся драгічынцы?*

*7. Як паводзілі сябе драгічынскія вoі? Што сведчыць пра іх адукаванасць?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

У Драгічына былі сувязі з дрыгавіцкімі гарадамі..., ..., ..., ..., ..., ... . У Драгічыне археолагі знайшлі самы ... ... у Польшчы. У Драгічыне быў знойдзены ... ... з ... рабра з выразаным на ім ... надпісам.



*Прыемна зноў сустрэцца з сябрамі. На здымку вучні з Семянoўкі.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Канец канікулаў на мяжы

**Едучы ад Саколкі насамперш відаць тупыя, цяжкія зады шматтонных грузавікоў. Шафёры дрэмлюць у кабінах, кураць ля колаў, ляжаць па некалькі асоб на прыдарожнай траве.**

**— Якія ўмовы ў чарзе? — пытаюся двух, як выявілася, менчукоў.**

**Адзін з іх, седзячы, пачухаў аголеныя лыткі, паглядзеў хвіліну мне ў вочы і адказаў:**

**— Честно говоря, х...я**




У нядзелю, 1 верасня на пераходным пункце ў Кузніцы-Беластоцкай легкавыя машыны чакалі — паводле дзяжурнага афіцэра Камендатуры Падляшскага аддзела Гранічнай аховы — чатырнаццаць гадзін. Гэта тыя, так сказаць, гандлёва-турысцкага прызначэння. Даўжэй стаялі грузавікі — шаснаццаць-семнаццаць гадзін. Найбольшай цярплівасцю трэба запасціся тым, хто гоніць машыны, купленыя на Захадзе або ў Польшчы.

**Паспець да пачатку навучальнага года**

Настаўнік з Гродна пераязджаў Кузніцу трое сутак. Паколькі стаяў ужо недалёка шлагбаўма, спадзяваўся паспець раніцай 2 верасня ў школу.

— Ноччу прапанавалі нам пераезд мяжы за сто долараў, — кажа яго спадарожнік, — мы адмовіліся і вось за суткі амаль не зрушыліся з месца.

Настаўнік купіў у Агародніках „Форда" з 1988 года за 2 800 долараў. Мытная плата, страхоўка, падатак — на гэта пойдзе, як ён падлічыў, яшчэ 600 долараў. Працуючы на адной толькі стаўцы — 18 гадзін у тыдзень — настаўнік у Беларусі зарабляе месячна 600 тысяч рублёў (няцэлыя 40 долараў).

— Чаму за машынай не ехалі вы ў Нямеччыну, там пэўна купілі б танней?

— Нямецкую візу трэба чакаць больш за месяц, заплаціць за яе 150 долараў. А дарога, а харчы? Адно на адно выйдзе. У перагоне машын праз Польшчу спецыялізуюцца нашы беспрацоўныя.

Настаўнік на чаргу не скардзіўся. Ёсць кран з халоднай вадой, ёсць бары, сталовыя — былі б грошы, можна стаяць.

Мажны мужчына з залатымі зубамі аказаўся немцам з былой ГДР. Семнаццацігадовым юнаком, не паспеўшы паваяваць, трапіў у Беларусі ў палон. Цяпер мае ў Менску транспартную фірму.

— Мне з вайны яшчэ запамяталася дабрата тутэйшага народу, — расказваў ён на добрай расейскай мове, — у палоне ж чаго добрага можна спадзявацца. Але людзі, хаця самі жылі мала лепш, ставіліся да нас спагадліва. Таму я і рашыўся цяпер паспрабаваць тут бізнесу.

Немец лічыць, што затрымка на мяжы штучная, што камусьці моцна на гэтым залежыць. Ён, папраўдзе, мог бы пераехаць без чаргі, але не хоча гэтага рабіць:

— Я наглядзеўся на нахабства немцаў з Захаду, якія на сваіх дарагіх машынах прушца ўсюды і на нікога не аглядаюцца. Мне гэта не падабаецца, я лічу, што не маю права вылучацца з ліку гэтых людзей.

А фірму ў Менску збіраецца зачыняць, бо працаваць там стала невыносна цяжка.

**Зарабіць на чарзе**

Ужо ад Беластока паабапал шашы поўна двухмоўных шыльдаў: „Meble-Мебель". У самой Кузніцы таксама некалькі мэблевых крамаў.

— Гэта Ломжа нас забяспечвае таварам, — тлумачыць самавітая ўласніца выстаўленага на дарогу фатэля, — мы самі тут не робім, толькі прадаем, пакуль ёсць там запатрабаванне. Невядома, аднак, як доўга. Камплект — канапа і два фатэлі — каштуе дзвесце долараў, а мытная аплата за яго — сто. Але цана, гэта толькі адзін фактар. Могуць проста забараніць увоз у Беларусь, як зрабілі летам са свежай гароднінай.

Ці ёсць нейкая карысць жыхарам Кузніцы (дзве тысячы душ) ад патоку машын, едучых цераз мясцовасць?

— Як каму, — па-філасофску адказаў солтыс Станіслаў Цьвіклеўскі, — але большасць прыватнай ініцыятывы, уласнікаў сталовых і бараў, нетутэйшыя. У нас людзі бедныя, мала прадпрымальныя, толькі што на чыгунцы працуюць. Пару асобаў у апошні час сталі працаваць пагранічнікамі і мытнікамі на дарожным пераходзе.

Цяпер то хоць машыны не стаяць у самой Кузніцы, бо раней то часта немагчыма было з панадворка выехаць.

— Уяўляеце сабе, як такія саракатонныя аўтафуры (TIR-у) адзін за адным стануць, — кажа солтыс, — і ні ўзад, ні ўперад. Былі і выпадкі, людзі траплялі пад колы, машына ў машыну ўрэзвалася, фары білі тым, хто без чаргі пхаўся.

Грузавікі і адсунулі найдалей ад мястэчка. Шафёры наракаюць, што там, дзе яны стаяць, няма ніводнага бара, няма дзе памыцца, куды схадзіць за патрэбай.

— Рана страх выйсці за парог, — жаліцца Юрак, чыя хата якраз у вызначаным для грузавікоў месцы, — бо ўсё навокал абасранае. Ці ж гэта я маю прыбіральні для іх рабіць? Я хацеў бар адчыніць, кругласутачны, з кавай, чаем, півам, гарачымі стравамі. Але не дастаў крэдыту. Цяпер плануюць пашыраць дарогу на два метры, дадайце да гэтага яшчэ ўзбочыну, дык мне амаль на панадворак уедуць. А ўжо і так у хаце трэшчыны параблівся ад руху грузавікоў. Дзеці мне ўначы будзяцца ад гудзення матораў, віску клаксанаў. І дзе жаліцца, калі мне ў гміне сказалі, што мой пратэст у справе пашырэння шашы нічога не значыць?

**Усё роўна, ехаць трэба**

Вусаты вадзіцель аўтафуры з Зялёнай Гуры спакойны. Вязе ў Маскву будаўнічыя матэрыялы — тавар не сапсуецца. Ехаць і так мусіць, а ўсе пераходы на ўсходняй мяжы падобныя.

Маладжавы немец за ім не выключае аграмаднага аўтамабіля-рэфрыжэратара. Па-англійску не гаворыць, але неяк разумее, што пытаю яго пра чаргу.

— Sixteen hours, — паказвае на гадзіннік, пасля чаго цэдзіць праз зубы ўжо па-нямецку: — Scheiße.

Беларускія шафёры, якіх у чарзе найбольш, тлумачаць феномен сваёй рухлівасці:

— Вы думаеце, што тавары, якія мы возім, затрымліваюцца ў Беларусі? Дзе там, усё ідзе далей, у Расею. З Масквы не аплачваецца гнаць грузавік, дапусцім, у Варшаву ці Берлін. А з Гродна — палова дарогі.



У Беларусі заводы запускаюцца на некалькі дзён і зноў спыняюцца. На як доўга — невядома. Нічога не зробіш, трэба ехаць.

Мікола **Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Новыя вершы

Барыс **Руско**

## З-пад стрэхі лісцяў

Вечар па шыю ў буры.
Злавесная птушка
над кронамі пушчы —
вочы ў маланках,
а ногі на корані.

## Абуджэнне

Яшчэ не світае,
а ўжо звоняць,
на крылах голас паветра.
Жыве вада
ў берагах голых,
а берагі — раскрытыя вусны.

## З лісцяў лета

У прыліве сонца
дзянёк ліпнёвы
зялёнай хваляй
сады калыша,
на ўзбярэжжах
палёў даспелых
пукаты колас
спачыў у далоні.
У ракі заколлі
дзятва, што кветкі,
гуляе з ценем
пад парасонам,
у блакіце неба
агні жывыя
з гарачых зрэнак
і палкіх сэрцаў.
Жыццё іграе
п'есу без слоў.

## З галавою ў імгле

Толькі твараў у далонях,
што згубіў я колер вачэй
і пах думак.
Чакаю ў кубе босы
і сумна мне,
што здольны змерыць
толькі свой пульс.

## Полымя

Вежа ў конусе святла,
цеплыня ад позіркаў гарэння.
З кожным золакам спапяляецца ноч,
а глыба дранцвее.
Толькі па грані ідзе жыццё.

## Спякота

У спякоту колас воскавы,
а зерне — маршчынка,
хлеб салёны,
з нутра сонца выняты,
а кветкі,
бы немаўляты,
што не паспелі зірнуць
за плечкі і ўжо памерлі.
А трава покатам,
ні варухнецца,
быццам чакае каманду
„Устань!"

## Без звароту

За плячыма рог месяца,
я не дапіў з яго яшчэ сонца.
Стаю ахмялелы
на скрыжаванні дня і ночы,
і шкада кожнай хвіліны
пражытай не да канца,
і кожнай утоенай перад сабой думкі,
і кожнага выцертага з памяці твару.
Жаль, што няма звароту
ў гэта самае месца.

## На смерць сасны

Сасна памірае,
а птушка зламала крылы
да малітвы,
а матыль у галовах,
а дуб вядзе душу цераз дрыгву,
а неба да зямлі прытулілася.

# Малітва

*Прысвячаю*
*спадарыні Алене Анішэўскай*

Чалавек, прынамсі я, шмат датаў са свайго жыцця не памятаў бы, калі б яны не зарыліся ў ягонай памяці балюча. Альбо вельмі радасна, каб памятаў усё сваё жыццё, ды мог расказваць маладым, якія старэч не хочуць слухаць. Я, ведаючы гэта, не стараюся сваім унучкам марочыць галаву. Я, напрыклад, памятаю, што на пашы ў сцюжу сустрэў горшага за сябе пастушка 12 лістапада (глядзіце: „Пожня"), а не памятаю даты заканчэння афіцэрскай школы. Памятаю дату заканчэння унтэр-афіцэрскіх курсаў 14 мая, а зусім не памятаю, калі закончыў курсы старшын ротаў.

Так справа маецца са здарэннем, якое апісваю, бо яго балюча перажыў, але не памятаю, колькі мне тады было гадоў — шэсць, восем, дзесяць? Хто яго ведае. Аднак сітуацыя спрыяла таму, што ведаю, бо як калісьці, ужо старэйшым будучы, гнаў я статак кароў з пашы на замёрзлай азіміне (басанож, каб падкрэсліць сваю сітуацыю ў вашых вачах сёння), стары Петрык, які ішоў пад пуню ў кажусе, спачувальна сказаў: „Ну, братка, Бог дасць, заўтра ўжо не пагоніш, бо на замёрзлую зямлю Мікола сашле снег. Паглядзі, якія алавяныя хмары вісяць". І таму я ведаю, што гэта было васемнаццатага снежня, бо дзевятнаццатага — Міколы. Сапраўды наваліла тады снегу і я астаўся дома памагаць у гаспадарцы.

Прыгнаўшы дамоў кароўку, мачыха лаяла мяне апошнімі словамі за тое, што так позна прыгнаў, бо калі ж яна ўправіцца з вячэрай, а бацька паслаў мяне па коней у Шалешак. Ішоў я, плачучы, Панфілюковай дарогай і сустрэў цётку Устынку, якая вярталася са Смугі пад Тафілаўцамі, бо, здаецца, там было іхняе поле.

— Куды ты дзіцятка нанач ідзеш?

— По коны...

— А хто цябе такога малога высылае за конЬмі?

— Тато.

— Тато? То мой Полік на шэсць гадоў за цябе старэйшы і то мне шкада яго нанач высылаць пасвіць коней. А ты не баішся ваўкоў?

Гэтым сказам неразважлівая цётка (родная сястра маёй мамы) толькі даліла алівы да майго і так, здавалася, неабмежаванага страху. Я баяўся не толькі ваўкоў, якіх бадай найменш было ў Шалешку, але найбольш пужалі мяне духі, якія сноўдаюцца па ўсіх дарожках, сцяжынках і шляюцца па карчах, каб толькі дзе схапіць маю грэшную душу і завалачы яе ў пекла. Так гаварылі мужчыны на пакудзельніцах, а жанчыны пішчалі і баяліся выйсці з хаты. Ну, то і я таксама баяўся. Найбольш, аднак, баяўся „духа" грэшнага нябожчыка, які начамі на могільніку буркаваў і чорнага ката, які нібыта выходзіў на дарогу, каб зляявіць кагосьці і завесці ў блуд. Гэта была праўда, што хтосьці „вадзіў у блуды", але пераважна п'яных гаёвых. Яны, напіўшыся ў гасцях за падараваную сасну або санкі дроў, частавата не маглі папасці дамоў (было іх двух у нас), ну то блудзілі, а людзі гэта прыкмецілі і стварылі легенду аб чэрцях, каб страшыць малышоў і жанчын. Я яшчэ тады нават не бачыў голуба, а тым болей не ведаў, што гэта ён на могільніку заступае грэшную душу сваім начным, страшным буркаваннем.

Тадышні Шалешак быў балоцісты, грузкі, што нават адкормленыя каровы часам страглі, парослы альшынай, а энклавы пясчанай зямлі — ядлоўцамі. Усё гэта дадавала страху, бо дзіцё не ведае ці воўк, або сатана выскачыць з альховае дрыгвы, ці з-за ядлоўца. Зрэшты, ноччу ядлоўцы самі сабою наводзілі страх, бо сваім начным выглядам нагадвалі чалавечую постаць.

Калі я так валачыўся, хаця і бягом са страху, мне пападала бачыць якісьці звяркоў. Аднаго нават вялікага, які шмыгнуў, але нішто мяне не заатакавала. Прабег я Пад Ёськамі, па Вярбінніку, Купу, Падбурок, Макарову Шыю, а коней не знайшоў. Як жа без коней вяртацца дамоў. „Давай, — падумаў, — пайду на Дворыска, гэта бліжэй вёскі, і там недзе прылягу". А страх не пакідае, бо ж у кожнай хвіліне нейкая лятучая душа грэшніка можа мяне прыкмеціць, або пападзецца воўк. Змораны, галодны і да сухога выплаканы зайшоў я ў чыйсьці гарох, каб пераначаваць. Не мог прымасціцца, бо і расліна ўжо халодная і зямля таксама менш утульная, чым салома пад дашком. Паеў стручкоў і давай маліцца, каб Гасподзь абараніў мяне ад ваўкоў, грэшных душ і ад усяго, што мне можа пагражаць. Не ўмеў я аніякае малітвы і баяўся, што Бог такіх не любіць. Ведаў, што не любіць, бо калісьці, стаяўшы на каленях перад карычневым крыжам у сваёй хатцы, прасіў: „Господі, дай мне хоч кусочак хлеба навэть без солі". Але не здарылася, каб знайшоў на вуліцы. Але тут, у гаросе, не меў я рацы, бо праспаў кавалак ночы, сказаўшы ўсяго толькі: „Госпаді, помылуй мэнэ грэшного і дай кроху одпочыты, бо ранынько знов мушу корову гнаты. Додому не можу показатысь, бо тато наб'ют. Воны казалі прывэсты з Шэлешка коны, а я, Господі, нэ знайшов іх і тато будут мусыты рано самы по іх іты".

Яшчэ да зары, як у народзе гаворыць, абудзіў мяне холад і ... спеў птушак. Пабег я дамоў і калі яшчэ ўсе спалі, пагнаў на пашу чырвоную, невялічкую каровінку. Вечарам дастаў за тое, што пагнаў не доеную і за абман, што коні былі на могільніку, а я лянаваўся туды зайсці. Пасля я ўжо ведаў, куды коні занадзіліся, бо там вялікая і салодкая трава. Гэты вопыт давёў да таго, што я перастаў чаго-колечы баяцца. Баяўся толькі начных кашмараў, якія мне часта сніліся.

Дык вось, калі Полік тады меў 12 гадоў, а быў старэйшы за мяне на шэсць, то лёгка можна здагадацца колькі мне тады было. І ці быў я дзіцём не толькі ў чужых, але ў свайго тата?

**Васіль Петручук**

P.S. Дзякую за віншаванні Сп. Алене Анішэўскай, Рэдакцыі „Нівы", літаб'яднанню „Белавежа", Яну Чыквіну, Ніне і Васілю Белаказовічам, Аркадзю Васілюку, Любе Місюк і Юрку Трачуку, які віншаваў мяне ад імя Рады і Управы Саюза ўкраінцаў Падляшша. Але віншаванні Аляксандры Ешчанка з Украіны далучаю да „Малітвы" з просьбай надрукаваць, бо такія пажаданні здараюцца рэдка. **В. П.**

## Уважаемый Василий Владимирович!!!

Сегодня я желаю Вам:
Здоровья, счастья, радости.
Назло предательским годам,
Прожить сто лет без старости.

Листать страницы прожитого — рано,
Рожденья дату незачем смотреть.
Она была и будет без обмана,
Весь фокус в том, чтобы не стареть.

Пусть счастье не покинет Ваш порог,
Как меньше знали Вы тревог.
И если всё же их не избежать,
Пусть будут силы, чтобы побеждать.

**Александра Петровна Ещенко**
*Золотоноша, 23.08.1996*

# НАШЫ КАРАНІ

### XCI. Прамінулі стагоддзі, але норавы не змяніліся

У папярэднім адрэзку нашых разважанняў ішла гаворка пра Свята-Мікалаеўскі манастыр і царкву ў Бельску-Падляшскім ды пра тое, як за сваю амаль 400-гадовую дзейнасць яны здзяйснялі надзвычай важную місію — спачатку ва ўмацаванні і паглыбленні, а затым у няўтульнай абароне праваслаўнай веры на Падляшшы. І тут неабходна дадаць, што сваё надзвычай цяжкае заданне наўрад ці змаглі б яны выканаць, калі б не згуртаванасць праваслаўных у новазаснаваным Свята-Мікалаеўскім брацтве.

Ініцыятыву ўтварэння брацтва прынеслі, відаць, у асяроддзе Свята-Мікалаеўскага манастыра і царквы дзеячы Богаяўленскага брацтва, якое надта актыўна працавала пры Богаяўленскай царкве і якое вымушана было спыніць сваю дзейнасць адначасна з захопам Свята-Богаяўленскай (сёння Міхайлаўскай) царквы уніятамі і зацверджаннем гэтага бяспраўя самім каралём Уладзіславам IV.

У выніку супольных намаганняў прыхаджан і манаскай брацііі, актам ад 1652 года кароль Ян Казімір афіцыйна дазволіў заснаваць пры Свята-Мікалаеўскім манастыры брацтва, збудаваць шпіталь і весці школу. А ў 1672 г. кароль Міхал Карыбут Вішнявецкі спецыяльнай прывілеяй зраўнаваў у грамадзянскіх правах праваслаўных бяльшчан з каталікамі і уніятамі: *ma być wolno Bractwo erygować, fundować z wolnym nabożeństwem odprawianiem i sakramentów in genere et specie wszystkich administrowaniem bez żadnej przeszkody i naruszaniu Religii Ritus Greco, nawiedzaniem chorych i umarłych, przez miasto do pogrzebu przychodzeniem. Szpital dla ubogich i szkołę ćwiczenia dziatek na gruncie cerkiewnym zbudować. Parafianie tej Cerkwie i Monasterem jako obywatele i współmieszczanie tameczni bielscy nie mają też być wedle dawnego i zawziętego zwyczaju od Urzędów Miejskich oddaleni, ale zarówno wolny do nich przystęp mieć powinni*. Гэты каралеўскі акт, аб'яўлены больш за 300 гадоў таму назад, павінен быць выпісаны залатымі літарамі на Бельскім магістраце, каб пра яго памяталі і сёння тыя з нашых братоў-католікаў, якія, праўдамі ці няпраўдамі захапіўшы большасць у магістраце (ці гарадской радзе), перш за ўсё праследуюць праваслаўных, выганяючы іх з працы.

Акт караля Міхала быў поўным маральным паражэннем ворагаў Свята-Мікалаеўскага манастыра і брацтва. Іменна дзякуючы дзейснаму, ахвярнаму і настойліваму брацтву ўдалося дабіцца ў найвышэйшай тадышняй улады гэтых правоў, а потым абараніць іх ад націскаў і праследаванняў з боку іншаверных фанатыкаў. Уніяты і каталікі не прызнавалі гэтага каралеўскага акта і не падпарадкаваліся яму. Яны з незвычайнай заядласцю патрабавалі ад мясцовых і каралеўскіх уладаў закрыць брацкую школу, бо яна была на высокім узроўні, і ў яе ахвотна пасылалі сваіх дзяцей католікі і уніяты. Аж прыкра ўспамінаць, што такія ж патрабаванні каталіцкага бельскага асяроддзя паўтарыліся праз 300 гадоў пазней, калі ў 1957—1959 гадах яно ў шматлюдных дэлегацыях паабівала парогі розных партыйных камітэтаў, кураторыі, міністэрстваў, дамагаючыся ліквідаваць тадышнюю Беларускую пачатковую школу і агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску. Трыма стагоддзямі раней бельскія католікі і уніяты наперакор каралеўскім пастановам дамагаліся забароны праваслаўных пропаведзяў, хрэсных ходаў па горадзе і палях, праводзін праз горад нябожчыкаў на могілкі, бо быццам гэта *odciąga nie tylko młodych, ale i starych od wiary unickiej a niektórych nawet od rzymsko-katolickiej. Służba Bogu w unickich cerkwiach słabnie tak, że niektóre z nich zostaną pustymi*, — скардзіліся бельскія уніяты каралю Яну Сабескаму. Аднак каралі, спазнаўшы сілу праваслаўных падчас паўстання Хмяльніцкага, не спяшаліся ажыццяўляць патрабаванні каталіцкіх фанатыкаў, часам нават выступалі ў абарону праваслаўных, не абмяжоўвалі іхніх правоў, пацвярджалі свабоду веравызнання. Таму здаралася, што некаторыя уніяты, а нават католікі вярталіся на ўлонне свае ранейшае веры праваслаўнае. Гэта даводзіла да шаленства мясцовых уніяцкіх і каталіцкіх фанатыкаў. Яны, насуперак каралеўскім загадам, падавалі ў суды на тых, хто вярнуўся ў праваслаўе, патрабавалі канфіскавання ўсяе іхняе маёмасці, турэмнага зняволення, выгнання з горада і краіны. Вось якая была тая славутая і паўсюдна хвалёная рэлігійная і нацыянальная талерантнасць і свабода ў Рэчы Паспалітай XVII—XVIII стагоддзяў. Даходзіла да таго, што католікі і уніяты, падбухтораныя сваім духавенствам, нападалі і грамілі праваслаўныя пахавальныя працэсіі, знішчалі крыжы, іконы, харугвы, білі праваслаўнае духавенства і ўдзельнікаў працэсій, зняважалі целы нябожчыкаў, а потым бельскі суд ахвяры нападаў укідваў у турму і выносіў ім высокія пакаранні.

Усе гэтыя дзікасці з боку уніятаў і католікаў не змаглі паўстрымаць дзейнасці Мікольскага брацтва, яно разрасталася і магутнела, умацоўвалася ўнутрана і датрывала да лепшых, святлейшых для праваслаўя часоў.

**Мікола Гайдук**

<u>**Адгалоскі**</u>

## Як выйсці з круга бэгэкатызацыі

Яўген Міранові піша („Ніва" н-р 34), што тое, „што на кожным фэсце рэкламуецца пасол Плева, для будучыні беларускасці не мае вялікага значэння". Для будучыні так, не мае. Для сучаснасці — мае. І то яшчэ як. Добра, што Яўген Міранові клапоціцца пра будучыню, але беларуская „rzeczywistość skrzeczy", не будучыня, аб чым піша ў далейшай частцы свайго артыкула галоўны рэдактар „Нівы".

Каб даказаць уплыў улады, а паслы належаць да ўладных структур, на гаспадарчую, перад усім, рэчаіснасць Беласточчыны, не трэба шукаць моцна абгрунтаваных аргументаў. Затым, калі ўжо пры нагодзе шматлікіх фэстаў рэкламуюцца кандыдаты ў Сейм, то няхай гэта будуць кандыдаты беларусаў, якім не абыякава будучыня беларускасці. Думаю, што спадару Сычэўскаму яна таксама не абыякава. Так, так! Нагоду для папулярызацыі сярод выбаршчыкаў сваёй асобы, як кандыдата ў Сейм, спадар Сычэўскі мае добрую. Калі не ў Сейм, то ў Сенат РП.

Цікава, чаму не дагаварыўся з левымі дэмакратамі (СЛД), што гэта ён з'яўляецца найлепшым кандыдатам на пасла, і няхай беларусы выбіраюць беларуса. Калі аб такой прапанове ён нават не падумаў, то падказваю, а нюх у мяне добры, што падумаць прынамсі трэба. Нічога, што спадар Сычэўскі пакуль што палітыкай не цікавіцца. Калі ўжо ён яе робіць, то і не аглянецца, як яна ўцягне яго ў свае лапы.

Добрае слова прыдумаў Я. Міранові — „бэгэкатызацыя" — на акрэсленне характару дзейнасці большасці беларускіх арганізацый. Мова беларуская аказваецца так сціплая, як англійская — адно слова „задрыпанец" і ўсе ведаюць хто такі, адно слова „бэгэкатызацыя" і вядома, які характар мае дзейнасць.

Каб выйсці з круга бэгэкатызацыі ў дзейнасці, трэба інтэлектуальнага штуршка, творчасці і не толькі ў форме сацыялагічнага адлюстравання нашай рэчаіснасці. Для адлюстравання рэчаіснасці патрэбна адпаведная для таго метадалогія, ну і ахвота яшчэ, каб усё гэта апісаць. Для змянення рэчаіснасці трэба мець пакрысе рысы дзеяча, палітыка, інтэлектуала, журналіста, ну і вешчуна. Калі патрэбны вяшчун, то і аптымізм. Але, як бачым, вешчуноў і аптымістаў вецер гісторыі выдзьмуў з нашага асяроддзя! **Міхась Куптэль**

Максім Танк

# Дзённікі

*(фрагменты)*

## 1978

**17.VIII.** Памагаў Дзянісу і Максіму запускаць змея. Неяк бесталкова тут праходзіць час: і не адпачываю, і не пішу.

Поль Валеры піша, што ўсе дзяржаўныя дзеячы чыталі гісторыю. Можна сказаць, што чыталі яе з той мэтай, каб аваладаць уменнем арганізаваць новыя канфлікты.

Пачынаюць выступаць з нейкай імглы дзве тэмы. Пакуль што яны падобныя да тых рыб, якіх бачыш у тоні, але не можаш вылавіць.

**18.VIII.** Крыху распагодзілася. Ездзіў на рыбалку, але нічога не злавіў на свой спінінг. Пасля абеду развіталіся і паехалі да сябе на дачу Кузюковічы. Чакаем прыезду Сашы і Верачкі. Накідаў верш: „На шчаслівым месцы стаіць наша хата...“ Але, ці на шчаслівым? Заўтра збіраюся ў Даўгінава. Можа, загляну і ў Пагост, дзе калісьці ў 1932 г. пераходзіў граніцу, уцякаючы ад паліцыі і дзе праваднічык сцягнуў з мяне, дадзены мне бацькамі на дарогу, кажушок. Колькі з таго часу мінула дзён! А галоўнае — усё і да самай драбніцы захавала мая памяць.

Заходзілі сваткаўскія настаўнікі. Абяцаў папоўніць іх школьную бібліятэку новымі кнігамі.

**22.VIII.** Вось і канчаецца мой нарачанскі „адпачынак“. Бяда толькі, што нешта ўзмацнілася мая арытмія.

Мы часта пішам аб уплыве народнай творчасці на творчасць пісьменнікаў, і зусім забываем аб адваротным працэсе, калі, скажам, многія вершы становяцца народнымі, як „Па дзікіх стэпах Забайкалля“, „Ліпа векавая“, „Імчыцца тройка паштавая“, „Сонца ўсходзе і заходзе“...

**25.VIII.** Заўчора памёр Піліп Пестрак. Не знаю, чаму ў гэты дзень з Саюза пісьменнікаў не змаглі да мяне дазваніцца. Перад самым ад'ездам на Нарач бачыліся мы з ім. Я яшчэ сказаў яму, што ў сваёй паэме пра Дворнікава ўспамінаю і яго. Быў ён у добрым настроі, бадзёры. Скардзіўся толькі на занік памяці. Адным словам: чарга ветэранаў на той свет не спыняецца, а наадварот — паскараецца.

**27.VIII.** Званіў Я. Брыль. Ён гаварыў па тэлефоне з М. Канановічам, які прасіў выслаць яму тэлеграму аб маёй згодзе на пераклад майго „Мураша-Бадзіні“.

Зноў дождж. Ну і лета! Помню, пра адно такое сцюдзёнае лета мне калісьці расказвала бабка. Нават жалі ў рукавіцах.

Нізка над возерам праляцела чарада дзікіх качак. Любаша пайшла ў аптэку, а я пачаў перакопваць агарод, на якім ужо нічога не расце, бо густа разрасліся дрэвы.

**3.IX.** Нядзеля. Відаць, яшчэ застануся на Нарачы. Быў у Пількаўшчыне. Адкапаў там на польскай мове томік Эмінэску, без апошніх старонак. Па дарозе купіў у Мядзела па вядру брусніц і журавін.

**9.IX.** І так, заўтра еду ў Мінск. На нейкі час тут застаецца Любаша, абяцалі прыехаць майстры перакласці печ, бо старая разваліласа зусім і не грэе.

**11.IX.** М. Кананавіч прывёз польскія часопісы „Odgłosy“ і „Literatura“ са сваімі перакладамі маіх вершаў. Званіў на Нарач. Не ведаю, як там Любаша спраўляецца з майстрамі, з малышом і нашай дачнай гаспадаркай. Усё гэта звалілася на яе плечы і няма каму памагчы. А работы — пропасць. Трэба будзе падумаць пра агароджу дачы, бо як кажуць: добрая агароджа збліжае суседзяў. Трэба было б раздабыць і торфу, і навозу, а то ад хімічнай цывілізацыі хутка і зямля, і самі тут патруцімся.

У галаву прыходзяць нейкія вар'яцкія тэмы. Колькі іх пажавала мая цвярозасць!

Якой смешнай самаўпэўненасцю гучаць словы Бруна Ясенскага: „Магу пісаць так, як Северанін. Магу пісаць так, як Маякоўскі...“

Часта задумваюся над тым, як пісаць далей, каб новы зборнік быў новым і па зместу, і па форме.

Гасціў у мяне Кароль Ізаковіч, з якім калісьці пазнаёміўся ў Браціславе. Збіраецца пісаць пра нашых партызан.

***(працяг будзе)***

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасьці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Узнікае пытанне, чаму ў час царызму так усур'ёз трактавалі людзі начальства, чыноўніцтва і ўвогуле службовыя асобы? Па-мойму таму, што людзі іх проста баяліся, паколькі чыноўніцтва моцна баранілі многія царскія законы. Быў, напрыклад, такі слаўны параграф: „за оскорбление должностного лица при исполнении служебных обязанностей...“ Пад такую стацію можна было па сутнасці падцягнуць кожнага. І не дзіва, што кружылі ў народзе такія паняцці, як: „Начальство лучше знает“ або „Дайце нам толькі чалавека, а мы ўжо яму самі адпаведны параграф знойдзем“ і гэтак далей. Звычайныя ж грамадзяне або не мелі сваіх правоў, або іх не ведалі...

Вось так больш-менш жылося і такімі былі нашы людзі ў час царызму.

І раптам уся гэтая, здавалася б, непарушная дзяржаўная структура і ўвесь стабільны ўклад яе жыцця раптоўна пачалі валіцца-распадацца. Ад вякоў аселы і моцна прывязаны да сваіх месц народ, змушаны быў раптам зрывацца з абжытых мясцін і са страхам уцякаць невядома куды. Такім было трагічнае лета 1915 года. І наглядны прыклад на тое, як не лічыліся правячыя са сваім народам...

Выязджалі з дому на падводах, забіраючы з сабой усё, што далося забраць. Рэшту рухомай маёмасці захоўвалі дома ў падрыхтаваных тайніках. Значыць, думалі хутка вярнуцца назад. Пасля вяртання ў 1921—1922 гадах аказалася аднак, што іх хітрыя тайнікі былі кімсьці раскрыты і дабро забрана.

Сем'і і вёскі выязджалі і трымаліся ў асноўным разам. З дзедавай сям'і выехалі: дзед Амяльян, бабка Еўдакія, іх сыны Васіль і Віктар (будучы мой бацька, якому тады не было яшчэ і дзесяці гадоў), дочкі Ліза і Ксеня. Разам з імі ехалі таксама дзедавы замужнія дочкі: Палашка, ужо Сахарчук, з мужам і маленькай дачкой Насцяй з нашай вёскі і Ганна, ужо Багінская, з мужам і сынком Мішкай з вёскі Трашчоткі.

Калі было ўжо ўсё пагружана на воз і запрэжаны коні, дзед апошні раз зайшоў у хату і доўга маліўся перад абразамі. Відаць, чула яго сэрца, што іх бежанскія дарогі — гэта дарогі вялікіх пакут, якім па сутнасці ўжо і канца не будзе.

Бежанскія дарогі былі разбітыя, загружаныя войскам і бежанцамі. Падвода за падводай на дзесяткі кіламетраў цягнулася на ўсход беларускае гора, а за імі грукатаў фронт, які, то прыбліжаўся, то зноў аддаляўся ад іх. Цяжка было збоку ўехаць на такую дарогу, а ўехаўшы на яе, затрымацца, дзе сам хочаш. Паабапал дарогі жывёліну гналі.

Каля беларускай мясцовасці Марынка нагналі вясковы абоз тыя старэчы, якія не думалі ехаць у бежанства. Яны расказалі, што прыехалі ў вёску казакі, іх выгналі, а вёску спалілі. Сумная была гэта вестка. Яна, так бы мовіць, паліла апошнія масты, якія яшчэ злучалі бежанцаў з радзімай.

Зменнае надвор'е, бруд, натоўпы людзей без гігіены і медыцынскай дапамогі спрыялі розным хваробам, эпідэміям. І яны бязлітасна зваліліся на бежанцаў. Уздоўж бежанскіх дарог пачалі густа расці капцы-магілы і чуваць горкі плач радні.

Не абмінула смерць і дзедавай сям'і. У Баранавічах памёр зяць Багінскі, а на Міншчыне дачка Палашка. У час адной стаянкі прапалі свінні і бабка пайшла іх шукаць. У час яе адсутнасці абоз рушыў далей, а з ім рушыў і дзед. Толькі за тыдзень нагнала і адшукала бабка сям'ю. Была галодная, змучаная, хворая і вельмі плакала. І залягла.

На падводах даехалі да станцыі Шклоў Магілёўскай губерні. Там спачатку пасялілі іх у бараку, а потым пагрузілі ў вагоны і рушылі далей на ўсход. А бабка ўсё ападала з сіл і ападала. Даехаўшы да Масквы, здалі яе ў бальніцу, а самі далей на Дон паехалі. Даехаўшы на месца і сяк-так уладкаваўшы сям'ю, дзед вярнуўся ў Маскву наведаць жонку. У Маскве не толькі не знайшоў жонкі, але і яе магілкі. Прыбіты горам дзед з трагічнай весткай вярнуўся да сям'і. Але жыць далей было трэба...

***(працяг будзе)***

# Як я званіў на 0700

Тэлефон у мяне ёсць. Частавата маўчыць, як на яго ні ўзірайся. Пазваню час-часом сям'і, каб не падумалі, што ўжо пайшоў пацыху на той бок календара. Знаёмыя тэлефануюць рэдка, бо ўсё іх менш ды менш, а з таго свету лінію да нас яшчэ не правялі. Ну, адна нудота: апарат вісіць на сцяне і маўчыць, як закляты. Рашыў я тады пазваніць туды, куды мне ўсё ў тэлевізары прапануюць. На „парты-фон“, дзе паненка так пачынае размову: „Дзіндыбры!“ З якойсьці дзеўкай паразмаўляю. Ну, толькі што дорага... Але куды ж тую рэнту дзяваць! Касцомаў маю тры, чацвёрты зусім выхадны, мяса не ем, бо адвык у „крызісе“, машыны няма, каб усе ашчаднасці пажырала, дзяцей таксама родных, а ўсіх знаёмых малечаў ужо паабдорваў... Ну, раз дазволіць сабе можна на такую раскошу, каб выдаць пару злотаў у паветра.

Спалучылі мяне з цэнтраляй хутка. Пытаюцца, з кім хачу знаёміцца, і што я за такі адзін. Ну, дайце мне, кажу, дзеўку гадоў 20-30, мне самому, скажам... Зараз палічу, ну, сорак два *(здаецца, тых каля трыццаці гадоў — не так і шмат, калі іх адняць...)*, зрэшты, мяне вы і так не бачыце...“ — „Нууу...“ — штосьці ці то засмяялася, ці то завыла ў трубцы. „Чакайце!“

Дзяўчына запытала адразу: „Сорак тры?! Ну, хай будзе. А што маеце?“ — „Ну, як, што... Усё, што ў мужчыны“. Паненка вісківа захіхікала. „Што маеш? Вядзеш інтарэс?“ — „Не, ён мяне якраз сам вёў усё жыццё“. — „Хі-хі-хі, бачу, з табою можна размаўляць. А што робіш?“ — „Размаўляю з табою, мілая. Мяне завуць Вандал“. — „Ой, а мяне — Ванда, як файна атрымалася. Мне дваццаць тры. Практычна я на спонсарстве. А ты чым займаешся?“ — „Літаратурай“. — „Ну, з гэтага можна выжыць. Пішаш „арлекіны“ ці дэтэктывы? Не чула, каб нейкі Вандал што пісаў“. — „А шмат чытаеш? Падпісваюся «Джэймс Морысан»“. — „Дом у цябе ёсць?“ — „Ага, так сказаць, асабняк. Над возерам... *(балбачу, а перад маімі вачыма — бацькава хата над вадасховішчам, у якую ўваліў я апошнія грошы, каб хоць яшчэ крыху зямлі трымалася, і мая „кавалерка“ ў „блёку“...)* Нават дзве хаты ў мяне ёсць“. — „А якое маркі ў цябе машына?“ *(Ой, ровар „Украіна“ ды бабчын „Зінгер“ і пішучая старэнькая „Эрыка“...)* „Ну, маю «Эрыку»“. — „Гэта штосьці карэйскае?“ — „Здаецца, так, я асабліва ў тэхніцы не разбіраюся. Я — тыповы гуманіст“. — „Што ж, малавата ў цябе ёсць, мілы Вандаліку, каб з табою весці размову... А так файна яна пачалася...“

Размаўлялі мы так больш-менш хвілін з 25, улічваючы чаканне ў „цэнтралі“. „Набіла“ мне каля 950 старых тысяч. Адна прыемнасць. Хоць парагаталі мы абое... Хаця сумна мне стала, калі раз не з прычыны гэтых грошай. Нічога ў цябе, Вандал, такога ўжо няма, каб дзеўку нават па тэлефоне звабіць...

Надумаў я адыграцца. Пазваню, думаю, на „Аўдыё-тэле“, каб выйграць той самаход; прэч прынцыпы! Трэба, вось, адказаць на адно пытанне, на якое адразу прапануюць табе тры адказы, ано выбірай, каторы добры. Пытанне дэбільна просценькае. Званю, прадстаўляюся, адказваю. А з трубкі бясстрасны галасок кажа мне, старому дурню: „Даруйце, мілы, вы памыліліся, ваш адказ — няправільны. Спрабуйце яшчэ раз“. Ну, думаю, глухія там сядзяць, ці што, або камп'ютэр у іх *урэдны*! Ну, калі я ўжо пару хвілін страціў, хай будзе яшчэ раз. Паўтараюць пытанне, зараз і тры тыя адказы. Выбіраю, вядома, той жа, што і раней. „Даруйце, мілы мой суразмоўца, вы памыліліся. Спрабуйце яшчэ раз.“ Адказ ужо раву не сваім голасам. У гэты раз мой правільны адказ, такі ж, як і папярэднія, аказваецца правільным. Пытаюцца ў мяне яшчэ раз нумар майго тэлефона, маё прозвішча, дакладны адрас, каб ведаць, куды пасля адправіць маю выйграную машыну. Вядома, калі з таго мільёна абанентаў, які з дурацкай асалодай тэлефанаваў у тую фірму, так як і я, камп'ютэр выбярэ дзвесце асоб ды паненка ў тэлевізары выцягне мой „лёс“, тады пазвоняць мне з радаснай навінай. Можа, тое аўто і замежнае будзе, ці не карэйскае, пра якое пыталася Ванда. Тады ў мяне больш у яе шанцаў будзе, чым з маім „Зінгерам“, хай ён і арыгінальны.

**Вандал Арлянскі**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**15 верасня**

1697 г. — Аўгуст II Моцны ўступіў на польскі трон.

1700 г. — памёр Анры Ленорт, заснавальнік версальскага парку.

1789 г. — нар. Джэймс Купер, амерыканскі пісьменнік (памёр 14 верасня 1851 г.).

1881 г. — нар. Эторэ Бугаці, італьянскі аўтаканструктар.

1890 г. — нар. Агата Крысці, англійская пісьменніца.

1916 г. — брытанцы ўпершыню ўвялі ў бой танкі.

1950 г. — 70 тыс. амерыканскіх салдат пад шыльдай ААН прычаліла да берагоў Карэі; пачатак контрнаступлення супраць кітайскіх і паўночнакарэйскіх войск.

1962 г. — 29 жыхароў Усходняга Берліна пракапалася тунелем у Заходні Берлін.

1966 г. — са штапеля спушчана першая брытанская атамная падлодка.

1968 г. — у СССР запушчана касмічны апарат *Зонд-5*, які ўпершыню абагнуўшы Месяц, вярнуўся на Зямлю з пасадкай на Індыйскім акіяне.

**16 верасня**

1621 г. — у вайне супраць Польшчы шведы занялі Рыгу і анектавалі Лівонію.

1977 г. — памерла Марыя Калас, грэчаская оперная спявачка.

1982 г. — ліванская хрысціянская міліцыя ўварвалася ў лагеры палесцінскіх бежанцаў у Бейруце і вымардавала там каля 800 дзяцей, жанчын і старэчаў.

**17 верасня**

1939 г. — Чырвоная Армія ўвайшла на тэрыторыю Польшчы.

**18 верасня**

1905 г. — нар. Грэта Гарба, шведская актрыса.

1970 г. — памёр Джымі Гендрыкс, амерыканскі рок-гітарыст.

**19 верасня**

1657 г. — Польшча прызнала самастойнасць Усходняй Прусіі.

1941 г. — у нацысцкай Германіі выйшаў загад назначаць усіх яўрэяў ад шостага года жыцця „яўрэйскай зоркай".

1974 г. — ураган „Фіфі" прайшоў над Цэнтральнай Амерыкай; у Гандурасе загінула каля 10 тыс. чалавек.

1985 г. — землятрус разбурыў 30% горада Мехіка; загінула каля 5 200 чалавек.

**20 верасня**

1903 г. — нар. пісьменніца Наталля Арсеннева.

1915 г. — памёр Карл Эвальд, нямецкі інтэрніст, які распрацаваў страўнікавы зонд.

1934 г. — нар. Софія Лоран, італьянская актрыса.

1967 г. — у Шатландыі спушчана са штапеля шыкоўны лайнер *Queen Elisabeth II* — найдаражэйшае ў гісторыі цывільнае судна, якое каштавала тады 30 млн. фунтаў.

1979 г. — звяржэнне дыктатуры Бакасы ў Цэнтральнай Афрыцы.

1980 г. — нападзеннем ірацкіх войск пачалася ірацка-іранская вайна.

**21 верасня**

1520 г. — на турэцкі трон уступіў Сулейман II, пры якім пачаўся буйны тэрытарыяльны рост Асманскай імперыі.

1941 г. — падчас абароны Ленінграда Чырвоная Армія ўпершыню прымяніла „Кацюшы" — „арганы Сталіна".

1975 г. — памёр пісьменнік Міхась Лынькоў.

1993 г. — расейскі прэзідэнт Барыс Ельцын аб'явіў роспуск парламента; парламент аб'явіў зняцце з пасады Барыса Ельцына. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што я іду з лесу, мінаю суседнюю вёску. На полі паміж гэтай вёскай і маёй стаіць трансфарматар электрычнасці. Вось на гэтым слупе стаіць мая карова і выглядае ўжо мяне, вельмі занепакоеная. Гляджу далей, а на стадоле — другая карова, спужаная вельмі, таксама выглядае, чакае мяне. А на панадворку — вялікі пажар, гарыць ужо палова хаты. Бягу я туды, хачу пазваніць па тэлефоне, вызваць дапамогу, але ж у хаце пажар, і няма як да таго тэлефона дабрацца. Бягу я за дапамогай да суседзяў.

**ЗІНАІДА**

Зінаіда! Каровы ў сне могуць абазначаць рознае. Вось прысніцца табе, напрыклад, добрая, тлустая, карова — так і знай, што чакае цябе багацце і дастатак. А будзе гэта карова худзенькая і слабенькая — будзеш увесь час у бядзе і патрэбе. Твае каровы ў сне былі нетыповыя. Адна ўздзябурылася аж на электрычны трасфарматар (як яна на слуп і ўзлезла толькі?!), а другая стаяла на стадоле. Што яны там рабілі — невядома. Ты пішаш, што чакалі, выглядалі цябе. Я думаю, што нежыцёвая пазіцыя гэтых кароў сведчыць пра тое, што прынясуць яны табе нешта нядобрае, тым больш, што карова на стадоле была вельмі спужаная. Мо яна спужалася таго вялікага пажару на тваім панадворку, калі згарэла ўжо палова тваёй хаты...

Так, Зінаіда, пажар няўхільна прадвяшчае хваробу (бадай, ад прастуды). Дык, можа, тыя кароўкі, што не хадзілі па лузе і не скубалі зялёную травіцу, а паўлазілі на трансфарматар ды стадолу, хацелі папярэдзіць цябе, што можа ў тваім жыцці здарыцца нешта нядобрае. Дбай пра сябе! **АСТРОН**

# ПАРНАСІК

## Кацярына

Кацярына, ведзьма,
Запрагайма, едзьма
Па пшаніцу за граніцу,
Пакуль будзе відна.
Пакуль голаду няма,
Збожжа трэ купляці.
Калі будзе бракаваць,
Станем прадаваці.
Тады зробім мы бізнес,
Будзем лепей жыці.
Я куплю табе кафтан,
Сабе нагавіцы.
Грошы будзем мы збіраць,
З людзей лупіць скуру.
Глянь, як наш урад і Сейм
Ўсё робяць халтуру,
Да сябе усё грабуць,
Дыеты павышаюць,
А пра вёску і сялян
Зусім забываюць.

**Мікалай Лук'янюк**

## Радасці

зіхацяць сонечны промні
ў пялёстках зрошаных траў
цвітуць пярэста кветкі
радасна прамаўляюць птушкі
бесклапотна смяюцца дзеці
плады наліваюцца ў садах
людзі нясуць ягады з лесу
ціха шэпча закаханы
спее поўны колас
пад мірным небам

**АЎРОРА**

## Падзелы

Іншыя ведаюць айчыны,
Ці нейкі там патрыятызм.
А ўва мне без дай прычыны,
Гуляе інтэрнацыяналізм.
Нацыю сваю я не прыдумаў,
Ды веру я не выбіраў.
І пра айчыну я не думаў.
Ніяк яе я не ўгадаў.
Там за мяжою я — паляк.
Тут, у сябе, завуць „кацап".
Калі я быў малым, усё плакаў,
Што я не негр або араб,
Мангол ці палінезіец.
Тады я б ведаў, дзе я свой,
Дзе я айчыну сваю маю,
Дзе можна мне знайсці спакой.
Тады мо б нацыі не краналі,
Веры, каму не па душы,
Ды пра айчыну не пыталі б.
Жыві сабе і не грашы!
Ад вераў ды патрыятызмаў,
Якіх без ліку выдаў свет
Для розных нейкіх там капрызаў,
Суседу ворагам — сусед.
Калі б не гэтыя падзелы,
Калі б іх не было зусім,
Усе жылі б вольна і смела
У свеце, Польшчы, на Русі...

**„УЛАС"**

## Ляцяць гады

Ляцяць гады
І нашы плады
Сабіраюцца
І Богам разважаюцца.
Нашы ўчынкі, словы,
Гэта не дровы —
Яны не гараць
Ды іх не прадаць;
Недзе запісаны
І нашы дні палічаны.
Бог запісаў
І Хрыста на зямлю паслаў,
Каб грэшнік мог апраўдацца,
На Сына Божага спаслацца
З глыбокай верай —
Хрыста любоў без меры.
Ён жыве, дзейнічае
І нашы грахі выбачае.
Гэта можна лёгка адчуць
І голас Ісуса пачуць.
Шкада, што людзі аглохлі
І пра збаўленне замоўклі.
Для іх матэрыялізм — гэта царства;
Давядзе ён да марнатраўства.
Смерць кожнага забярэ
І ў цёмным свеце выкуп здзярэ
За твае ўчынкі, як жыў
І свой шлях адбыў.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Крыжаванка




**Упоперак:** 2. пачатак спаборніцтва, 4. наглядальнік і кантралёр, 6. наводзіць страх, 7. напад, 9. доўгі высокі насып, 11. еўрапейская краіна, 12. чалавек з павышаным імкненнем да задавальнення палавых пачуццяў, 13. частка цела чалавека ніжэй спіны, 15. трыганаметрычная функцыя, 17. атрад у сто чалавек, 18. першая касманаўтка, 19. непрыемнае пачуццё.

**Уніз:** 1. незамужняя дзяўчына, 2. даследчык гісторыі праваслаўя на Беласточчыне, 3. чэшска-славацкі грузавік, 4. жыхар Мілана, 5. жанчына, якая практычна падыходзіць да жыцця, 6. горная парода, якой асноўным кампанентам з'яўляецца кварц, 8. дзявочае імя, 9. лісцевае дрэва, 10. народ, людзі, 14. ляшчыннік, 16. цэнтральны орган кровазвароту, 17. моўная адзінка. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 30 н-ра:**

**Гарызантальна:** карэта, бульба, Бухара, Баку, Каір, Палестрына, пала, Дака, Крынкі, Валдай, прыказ.

**Вертыкальна:** касьба, табу, бура, банкір, халестэрын, Купала, Канада, палова, Каўказ, край, Кіпр.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Міхалу Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Сувеніры з Польшчы

30 новых гарцэрскіх мундзіраў атрымалі дзеці са школы ў Гожай, што на Гродзеншчыне, дзе дзейнічае гурток ЗГП пры тамашнім аддзеле Саюза палякаў у Беларусі.

Ужо чацвёрты раз польскія дзеці з Беларусі праводзілі канікулы ў Выдмінах, дзякуючы захадам Гіжыцкага аддзела Таварыства сяброў Гродна і Вільні. Іх пабыўку ў Польшчы фінансуе Галоўная камендатура ЗГП, кураторыя а таксама прыватныя спонсары.

На пачатку сёлетніх канікул дзяцей наведала прадстаўніца Камендатуры харугвы ЗГП з Ольштына. Падчас гутаркі спытала, аб чым яны мараць. А яны адказалі, што хочуць мець гарцэрскія мундзірчыкі. Ну і пачалося... За справу ўзяліся радыё ВА-МА, Банк развіцця экспарту і прыватныя спонсары — сабралі больш за 20 мільёнаў ст. зл. І ў аўторак, 13 жніўня, польскія дзеці з Беларусі атрымалі падаркі, якія ім марыліся — гарцэрскія мундзірчыкі.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**




**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

### Варона-Пегас з Парнаса

*Прыляцела варона.*
*Махала крылом.*
*Крычала варона...*

*— Хапайсь за пяро! —*
*Яшчэ каркнула з высі...*

*Міхась ШАХОВІЧ*

Прыляцела. Села на вароты.
І крычыць: „Хапайся за пяро!"
Нацягнуў я хутка свае боты
І сярдзіты выбег на парог.
— Што ты хочаш, гадкая варона?
Пахмяліцца лепей прынясла б...
А варона з вершаліны клёна:
— Музу я табе не данясла.
Скінуў бот і запусціў ў варону.
А яна махнула мне крылом.
Дзе знайсці мне пісталет з патронам,
Каб дагнаць варону за сялом?..

**Сяргей Чыгрын**



*Мал. А. КАРШАКЕВІЧА*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гарадскі пісьменнік прыехаў у лясную глухамань.

— Ці маеце будзільнік? — пытае ў гаспадароў.

— А навошта? Нас тут пеўні будзяць.

— Цудоўна! Скажыце ім, каб заўтра абудзілі мяне а восьмай раніцы.

* * *

Жонка дакарае мужа:

— Падумай толькі, колькі грошай можна было б адлажыць на ашчадную кніжку, калі б ты не піў гарэлкі...

— Згаджаецца: можна было б за гэта купіць 10 літраў гарэлкі!

* * *

У судзе:

— Ці падсудны, калі краў рубашкі, падумаў аб сваёй беднай матулі, якая пасвяціла сваё жыццё, каб выхаваць вас на прыстойнага чалавека?

— Не, высокі суд, бо гэта былі мужчынскія рубашкі.

* * *

— Татка! Чаму гэты козлік не мае рогаў?

— Бо ён яшчэ нежанаты.

* * *

Жонка да мужа:

— Ну і як смакаваў табе сёння абед?

— Ці мусіш зноў шукаць зачэпку для сваркі?



*Мал. Я. БУСЛА*

Сцяпан Абух

## З запісаў нацыяналіста

### 22. Рубенс Валілка II

Я — Абух, але сёння ў маім жыцці гэта і не так важна. Мой аперацыйны псеўданім у архіве сакрэтнай службы Яе Каралеўскасці: Breathcleanair-83. Кажуць, што няма ў гэтай прафесіі паэтычнасці!? А гучыць жа гэта далёка лепш за крыптанімы, якія я вычытаў у аднай шпіёнскай кнізе, што купіў у аэрапорце, калі першы раз пакінуў маю любасную Зону і апынуўся ў Брытанскай Злучнасці Народаў.

Цяпер, як пяць сваіх пальцаў, да крышталёвасці выразна я бачу, што жыццё мае — адзін абсурд і шызафрэнія. Але ці ж не аказаўся сапраўдным паразітам і Раскірэк Цівун, які, нібы пасыльны хлопчык, пабег у замбарскае пасольства і нагаварыў адтуль па тэлефоне ў вяшчанне „Любоў" усякую дурніцу, якую яму толькі загадаў Роўлінсаў клерк Хадко Кадабко? Пачула гэта ўся Зона.

Я ўрэшце зразумеў, што Ты — духоўная канстанта ўсёй Зоны, жыццёвая мэта і прыстань падхалімскіх нашых жыцій. Так, і я здрадзіў Зоне, а ўчынак гэты — невыказны ў яго недаравальнасці. Сёння, аднак, я ўвабраў у сябе пакорлівасць пакутніка і гару агнём пажадлівасці адкупіць благія свае ўчынкі.

Асмельваюся, Рубенсе, ветліва падказаць, што невычэрпнае Тваё ўмельства і геніяльнасць не выявіліся дагэтуль яшчэ толькі ў палеанталогіі. Але, тут жа, я пойнюся даверам, што і гэтая, як кажуць падданыя Яе Каралеўскасці, „жыццёвая гоня" праз кароткае, як маланка на чыстым небе Зоны, імгненне, неўзабаве напоўніцца бясконцай праніклівасцю Тваёй думкі.

Айвен Біч нанёс, несумлеўна, найвялікшую шкоду, увёўшы ў Зону, супраць Тваёй волі, законы ЛЛП („лацысавы і лёлікавы праўды" пра Таварыства „Давайце Падзейнічаем"; імёны гэтыя павінны назаўжды пісацца малымі літарамі!). Ён, замест паставіць у „Гонях" належны Табе прастол, піша там, можа ў соты ўжо раз, пра якіхсьці Колькаў і Васькаў, чаго, акрамя яго самога, ніхто не разумее. Біч павінен звярнуцца за кансультацыяй да прафесіянала ў гэтых справах. Цябе, разумеецца, я маю на ўвазе.

Артадокс і Мацько, згламэздаўшы агідны іхні вобраз „Маладая Зона", выявілі перад усёй прагрэсіўнай Зонай найбольш скрытыя свае комплексы і зацюканасць, агульна кажучы. Прашу прабачэння, Рубенсе, за сваю смеласць, але няпраўда, што ад мяне і Бара-Бары Кухцік патыхала з экрана нафталінам. Гэта быў горшы пах — тухляціна. Дзякуй, Рубенсе, за нескончоную Тваю ласку і канчатковае асвядамленне мяне ў гэтым. Я ніколі больш не асмелюся сунуць нос туды, дзе аднаму Табе належыцца слава і веліч. Сёння я ведаю, што Ты, і толькі Ты адзін, павінен выступіць у „Маладой Зоне" — як герой, журналіст, рэжысёр, камераапаратар, спявак і публіка. Тое, што гэтак не сталася — Артадоксава і Мацькова зайздрасць, зласлівасць, крывадушнасць і здрадніцтва найсвяцейшаму інтарэсу Зоны.

Тэкставую слабізну выбранага Табою, а гэтым самым і вешчага, „Гара-Гары" спрычыніў не хто іншы, а Арыстоцель Ванько. Даруй, Рубенсе, нахабніцтва крытыкі. Ты не павінен яго дапускаць да гэтай паэтычнай і боскавытанчанай справы — калі б Ты сам, маладзік (у духоўным, разумеецца, сэнсе), які жыве гэтай музыкай і, як адзіны ў Зоне, разумее яе, пісаў ім тэксты — ніхто ў Зоне не сумняваўся б у прызнанні для гурту належнага яму прызнання. Прабач, Рубенсе, за каламбур. На маю, нікчэмную ў сваёй сціпласці, думку, Ты павінен і заспяваць у „Гара-Гары", бо толькі тады зможа ён выявіць паўнату свайго эстраднага бляску!

## Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Было так. Заляцаліся да мяне два браты. Адзін — чарнявы, другі — бландзінчык. Абодва — як дубы, прыгожыя і статныя. Не ведала я, каго з іх выбраць. Усё адбывалася нейкімі хвалямі: то больш падабаўся мне адзін, то — другі. Пакуль што да чаго, хадзілі мы ўсюды ўтраіх, і так нам было добра даволі доўгі час.

Хлопцы, аднак, былі нецярплівыя. Пачалі дамаўляцца са мною кожны паасобку: так, каб не ведаў другі. І ўрэшце гэта дало нейкі канкрэтны вынік, бо я пачала хадзіць з адным з іх, а другі толькі часамі бываў разам з намі. Калі раней хадзілі мы ўтраіх, дык неяк не выпадала прытуляцца ці цалавацца. Зрэшты, каторага я мела б цалаваць?!

Цяпер справа стала ясная. У мяне быў хлопец! Мне палягчэла і паспакайнела. Цяпер я не горшая за іншых дзяўчат! І ў мяне ёсць нешта сваё... І хлопец, прызнаюся, падабаўся мне з кожным днём усё больш. Нават не ўяўляла я сабе, што можна быць такой шчаслівай.

Шчасце распірала мяне да такой ступені, што не заўважыла я змен, якія адбыліся ў нашых адносінах. Хлопец знікаў на некалькі дзён, а бацькі яго не ведалі, дзе ён. А не казаў жа мне ні слова, што некуды выязджае. Я сядзела тады адна ў сваім нанятым пакойчыку і ламала сабе галаву, які гэта „бізнес" ён робіць у гэты момант. Бо быў чалавекам надта занятым.

А справа аказалася надта празаічная. Спадабалася яму іншая. Праўда, мае добрыя сяброўкі хавалі гэты факт перада мной, але адна з іх (мяркую, што няхочучы) прагаварылася. Паўлік з Жанэткай, сказала яна, у Супраслі сядзяць! У мяне ўнутры аж затрэслася. Які Паўлік? — пытаюся. Дзяўчаты замоўклі і з літасцю спаглядалі на мяне.

Зайздросніцы! Самі нудзяцца без хлопцаў, дык трэба ж і камусьці шпільку ўсадзіць...

Але ж пагаварыла я з яго братам. Глянуў на мяне з нейкім здзіўленнем у вачах. Маўляў, а што, ты не ведала? Не сказаў, аднак, нічога, што магло б пашкодзіць яго брату, але я і так ужо ўсё ведала.

Ну, падумала я, пакажу ж я табе! Будзе табе Жанэтка, будзе і Маргарытка! А ты, сонейка, кажу яго брату, не сумуеш адзін? Хлопец глянуў на мяне закаханымі, як і калісь, вачамі і засаромеўся. Калі сумна табе, дык прыходзь, кажу, я заўсёды пасля працы ў хаце сяджу.

Праз два дні была нядзеля. Думаеш, не прыйшоў? Вядома што прыйшоў, узброіўшыся віном і лімонамі (каб добра з рота пахла, пэўна). Леглі мы ў пасцель — я з чужым чалавекам побач. Прабуем нешта зрабіць, але не ляжыць мая душа да яго. Цяжка зрабіць тое, на што не маеш ахвоты, а ён жа гэта адчувае! Ведае, у што ўложаны мой капітал пачуццяў. А мо брата баяўся, бо ж свінні яму падкладаў, як бы там не было.

Разззлавалася я: што за мужчына, маўляў? Апранулася і яму загадала апранацца. Сядзімо, віно дапіваем. На лімоны і не глядзім. І раптам у дзверы: стук-стук. Уваходзіць мой любімы. Аж зззлянеў, убачыўшы не брата, а... лімоны. Пэўна, уяўляў сабе, што яго брат то мог бы да мяне прыйсці, але не з лімонамі. Віно яшчэ аб нічым не сведчыла.

Разгарэлася сварка. Брата выкінуў з майго пакойчыка, а да мяне кажа: „З лімончыкамі, так?!" Ну, так. Што ж мне было тут ужо апраўдвацца.

І так, даражэнькае Сэрцайка, мой хлопец праз тыя лімоны вярнуўся да мяне. Не глядзіць сёння на іншых дзяўчат, а толькі бегае за мной, чакае мяне штодзень пасля працы, праводзіць мяне дахаты. Пачынае пагаворваць пра вяселле. Я яму кажу, што на гэту тэму яшчэ выказацца не магу. Сталась яго пачуццяў пакуль што ў сферы маіх разважанняў. Што рабіць, Сэрцайка?

**Івона**

Івона! Бачыш, якія добрыя фрукты — лімоны. Гэта ж табе не толькі вітамін С, але і някепская зброя. Баюся, аднак, што характар твайго хлопца не зменіцца радыкальна з прычыны аднаго акту зайздрасці. Відаць, дзяўчат ён любіць і да гэткіх спраў вернецца, як толькі ўпэўніцца, што ты — ягоная назаўсёды. Скіснеш зусім, калі кожны раз давядзецца звяртацца да лімонаў.

**Сэрцайка**